● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

25 жніўня 1998 г. аўторак, № 166 (23517)

# ЗВЯЗДА

## БЕЛАРУСЫ ЗІМОЙ НЕ АДЧУЮЦЬ НЕДАХВАТУ ГАРАЧАЙ ВАДЫ

Скарачэння бюджэтных затрат на цеплавую энергію не чакаецца. Насельніцтва рэспублікі ў зімовы перыяд своечасова і ў дастатковай колькасці будзе забяспечана гарачай вадой. Аб гэтым заявіў Аляксандр Лукашэнка ў час рабочай паездкі па Баранавіцкаму раёну ў канцы мінулага тыдня. Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, гэта пытанне ўзята пад асаблівы кантроль урада краіны.

**БЕЛТА.**

## ДЗВЕ ТРЭЦІЯ ЧАСТКІ БЕЛАРУСКАГА ЭКСПАРТУ АДПРАЎЛЯЕЦЦА Ў РАСІЮ

Агульны аб'ём экспарту Беларусі за першае паўгоддзе 1998 года склаў 3,6 мільярда долараў, з якіх 2,8 мільярда — у краіны СНД (2,5 мільярда — у Расію), у дзяржавы далёкага замежжа — 0,8 мільярда долараў. Агульны аб'ём імпарту склаў 4,5 мільярда долараў, у тым ліку з краін СНД — 2,9 мільярда (з Расіі — 2,4 мільярда), з дзяржаў далёкага замежжа — 1,6 мільярда долараў. Сальда знешняга гандлю склалася адмоўным і дасягнула 877,2 мільёна долараў, ці 12,8 працэнта да ВУП. Адмоўнае сальда ў параўнанні з першым паўгоддзем мінулага года павялічылася на 20,1 працэнта. Усе гэтыя лічбы былі прыведзены напрыканцы мінулага тыдня на калегіі Міністэрства знешніх эканамічных сувязяў, удзельнічаў у якой кіраўнік міністэрства Міхаіл Марыніч.

Знешнегандлёвы абарот Беларусі за першае паўгоддзе склаўся ў памеры 8,2 мільярда долараў ЗША і павялічыўся ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года на 13,9 працэнта.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ, БелаПАН.**

## ДА ЎВАГІ ПАСАЖЫРАЎ «ЭЛЕКТРЫЧАК»!

**Пасажыраў, якія рэгулярна карыстаюцца паслугамі электрапаяздоў маладзечанскага накірунку ці маюць намер зрабіць гэта толькі 27 жніўня, чакае малапрыемны сюрпрыз.**

Як паведамілі нашаму карэспандэнту ў Мінскім аддзяленні Беларускай чыгункі, у сувязі з правядзеннем пуцявых работ 27 числа з 7 гадзін 30 хвілін да 21 гадзіны рух усіх паяздоў на перагоне Аляхновічы—Уша ажыццяўляцца не будзе. Перавозкі паміж гэтымі станцыямі будуць ажыццяўляцца аўтобусамі за плату з заездам на прыпынкі Баяры і Ласі. Той, хто набудзе «прамы» білет, скажам, з Мінска да Маладзечна, паедзе ў такіх аўтобусах бясплатна. Акрамя названых «новаўвядзенняў», 27 жніўня будзе значна скарочаны расклад руху паяздоў на гэтым накірунку.

**Сяргей ПРОТАС.**

### УСМІХНЁМСЯ

Фота Ігара ПЯТРОВА.

*На тэму дня:*
*Размаўляюць двое знаёмых.*
*— Ты мне можаш растлумачыць, што такое палітыка?*
*— Паспрабую. Ты калі-небудзь бачыў нос камара?*
*— Так.*
*— Дык вось, палітыка — гэта яшчэ больш тонкая рэч...*

❑

*Пацыент заходзіць да ўрача:*
*— Дзень добры, доктар!*
*— А-а, дзень добры, дзень добры! Вы, здаецца, у мяне ўжо былі? Ваша прозвішча Карпюк?*
*— Плеўрыт?*
*— Не, Андрэй.*

Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

# Жніво выпрацоўвае ўсіх

*На здымку:* **механізатары ашмянскага калгаса імя Ф. Багушэвіча В. СКАРУЛЬСКІ, М. МІШЧАНОВІЧ, В. ШЫМАНОВІЧ, І. ЗАРЭЦКІ, Л. ЧАРНУШЭВІЧ.**

*(Гл. 2-ю стар.)*

### ЦЭНЫ

## КОШТ ПАМЫЎКІ «НА АДНУ АСОБУ» СТАЎ ДАРАЖЭЙШЫМ

**Жыллёва-камунальная асацыяцыя «Мінаблкамунальнік» з дазволу аблвыканкама крыху павялічыла тарыфы на паслугі гарадскіх лазняў на Міншчыне.**

Як патлумачыла карэспандэнту «Звязды» начальнік планавага аддзела жыллёва-камунальнай асацыяцыі Валянціна Фёдарава, тарыфы на карыстанне гарадскімі лазнямі трымаліся нязменнымі ў вобласці на працягу больш года.

Найперш гэта тлумачылася сацыяльнай значнасцю гэтых паслуг, а таксама тым, што падлічыць два працэнты інфляцыі з невялікіх тарыфаў часта было цяжка, ды і немэтазгодна. Таму дазволены ўзровень інфляцыі падсумавалі (так ужо рабілі і сувязісты, і транспартнікі) за пэўны прамежак часу. Па словах Валянціны Фёдаравай, на вобласць была цэнтралізавана «спушчана» толькі адна пазіцыя наконт павелічэння — наведванне агульнага аддзялення з парылкай падаражэла з 8 да 10 тысяч рублёў на чалавека.

Па астатніх паслугах на месцах могуць прымацца адпаведныя змяненні, зыходзячы з узроўню выдаткаў. Але відавочна, што павышэнне тарыфаў нязначнае.

Між тым сабекошт такой паслугі, як наведванне агульнага аддзялення, складае зараз 57 тысяч рублёў.

«Вядома, растуць выдаткі на паліва, электраэнергію, змяняюцца падаткі», — гаворыць Валянціна Міхайлаўна, — таму мера гэта вымушаная».

Выдаткі лазняў вобласці за першае паўгоддзе склалі 29 млрд. рублёў, з якіх кампенсавана было толькі 25 млрд. рублёў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**



## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 24 ЖНІЎНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 59200 | 59800 | 32950 | 33280 | 6650 | 8450 | 233-2110 |
| Мінскхомплексбанк | 59500 | 60000 | 33100 | 33350 | 8400 | 8450 | 228-2047 |
| Пріорбанк | 58500 | 60000 | 32600 | 33400 | 8000 | 8400 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) афіцыйны курс | 47000 | | 26395.60 | | 6550 | | Курс на 25.08.1998 |
| спецыяльны курс | 50000 | | 28250 | | 7100 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 7.1400 | | 3.9631 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваццa ад курсаў, установленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць. пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс (міжбанкаўскі рынак) | 99000 | 99998 | 54930 | 55492 | 13378 | 14084 | |
| Рэальна абгрунтаваны курс | 70000 | 70500 | 38800 | 39100 | 9500 | 9800 | |

## НАЗНАЧЭННЕ ВІКТАРА ЧАРНАМЫРДЗІНА ПАРАДАВАЛА ІВАНА КАРАТЧЭНЮ

Вяртанне Віктара Чарнамырдзіна на пасаду Старшыні Ўрада Расіі (як вядома, указам прэзідэнта Барыса Ельцына адпраўлены ў адстаўку ўрад Сяргея Кірыенкі і на Чарнамырдзіна ўскладзена часовае выкананне абавязкаў Старшыні ўрада Расійскай Федэрацыі), відаць, парадуе многіх палітыкаў, якія працавалі з ім раней. Каменціруючы журналістам 24 жніўня гэту падзею, першы намеснік Выканаўчага сакратара СНД Іван Каратчэня назваў Віктара Чарнамырдзіна прадказальным палітыкам і вялікім дзяржаўным дзеячам, здольным прыняць адказнасць на сябе, каб вывесці Расію з цяперашняга эканамічнага крызісу.

Іван Каратчэня падкрэсліў, што ён будзе рады бачыць Віктара Чарнамырдзіна ў якасці расійскага прэм'ер-міністра на сустрэчы кіраўнікоў урадаў СНД, якую плануецца правесці ў канцы верасня ў Крыме.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

## РАБОЧЫ ТЫДЗЕНЬ ПРЭЗІДЭНТА

Гэты рабочы тыдзень прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі будзе прысвечаны вырашэнню пытанняў унутранага і міжнароднага характару.

У аўторак Аляксандр Лукашэнка будзе займацца вырашэннем кадравых пытанняў, а таксама дасць інтэрв'ю журналістам Нацыянальнай тэлекампаніі Украіны.

У сярэдзіне тыдня адбудзецца рабочая паездка прэзідэнта Беларусі ва Украіну. У яе ходзе намечаны сустрэчы і перагаворы кіраўніка нашай дзяржавы з Прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмам.

У канцы тыдня Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сустрэнецца з Прэзідэнтам Сацыялістычнай Рэспублікі В'етнам Чан Дык Лыонгам і іншымі высокапастаўленымі асобамі, якія прыбудуць у нашу рэспубліку з афіцыйным візітам. На сустрэчы будзе разгледжаны шырокі спектр пытанняў двухбаковага супрацоўніцтва, якія маюць узаемную цікавасць.

На працягу тыдня Аляксандр Лукашэнка прыме са справаздачамі вышэйшых службовых асоб дзяржавы, будзе займацца вырашэннем дзяржаўных задач.

**БЕЛТА.**

## ПРЭЗІДЭНТ ПРЫНЯЎ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРА

Як паведаміла БЕЛТА прэсслужба прэзідэнта, 24 жніўня Аляксандр Лукашэнка прыняў са справаздачай прэм'ер-міністра Сяргея Лінга.

Прэм'ер-міністр далажыў аб выкананні даручэнняў кіраўніка дзяржавы, звязаных з павышэннем аплаты працы, і ў першую чаргу работнікам бюджэтнай сферы.

Прэзідэнт даручыў ураду ў двухтыднёвы тэрмін завяршыць падрыхтоўку прапаноў па паэтапнаму павышэнню аплаты працы і паставіў задачу прадугледзець павелічэнне зарплаты з 1 кастрычніка гэтага года на 20 працэнтаў, а з 1 студзеня 1999 г. — яшчэ на 25 працэнтаў.

У ходзе сустрэчы Сяргей Лінг далажыў прэзідэнту аб выкананні даручэнняў па падрыхтоўцы народнагаспадарчага комплексу да ўстойлівага функцыянавання ў надыходзячы асенне-зімовы перыяд.

Пры гэтым асноўная ўвага была ўдзелена абмеркаванню праблем забеспячэння рэспублікі энерганосьбітамі і разлікаў за іх. Было адзначана, што запасы паліўна-энергетычных рэсурсаў у рэспубліцы вышэй за мінулагоднія і дастатковыя для забеспячэння бесперабойнай работы народнай гаспадаркі, уключаючы жыллёва-бытавую сферу і забеспячэнне насельніцтва цяплом і гарачай вадой.

Аляксандр Лукашэнка асабліва падкрэсліў, што недапушчальна парушаць графікі рамонту цеплатрас і падачы вады насельніцтву і ўказаў на неабходнасць забеспячэння гарачай вадой з 1 верасня гэтага года ўсіх спажыўцоў.

Ураду дадзена даручэнне актывізаваць работу з канцэрнам «Белнафтахім» і кампаніямі, якія пастаўляюць нафтапрадукты на рынак рэспублікі для задавальнення палівам у верасні—снежні гэтага года патрэб народнай гаспадаркі.

Прэм'ер-міністр праінфармаваў таксама кіраўніка дзяржавы аб комплексе мераў, што прымаюцца ўрадам для змяншэння негатыўнага ўплыву на эканоміку Беларусі падзей, якія адбываюцца ў Расіі.

**БЕЛТА.**

УКАЗ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

**№ 408**

**Аб унясенні змянення і дапаўненняў ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 18 сакавіка 1998 г. № 137**

У мэтах удасканалення парадку ацэнкі якасці маёмасці, затрыманай, арыштаванай, канфіскаванай або ператворанай у даход дзяржавы іншым спосабам, **пастанаўляю:**

1. Унесці ў пункт 5 Парадку ўліку, захоўвання, ацэнкі і рэалізацыі маёмасці, затрыманай, арыштаванай, канфіскаванай або ператворанай у даход дзяржавы іншым спосабам, зацверджанага Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 18 сакавіка 1998 г. № 137 «Аб некаторых пытаннях упарадкавання работы па ператварэнню маёмасці ў даход дзяржавы» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1998 г., № 8, арт. 192), наступныя змяненне і дапаўненні:

выключыць з пункта слова «бязвыплатна»;

дапоўніць пункт часткамі наступнага зместу:

«Расходы на правядзенне гігіенічнай рэгістрацыі і сертыфікацыі маёмасці, сродкі ад рэалізацыі якой залічваюцца ў даход рэспубліканскага бюджэту, кампенсуюцца органамі Дзяржаўнага падатковага камітэта і Дзяржаўнага мытнага камітэта з транзітных рахункаў рэспубліканскага бюджэту на падставе прадстаўленых дакументаў аб фактычных затратах, засведчаных Міністэрствам аховы здароўя і (або) Дзяржаўным камітэтам па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі.

Расходы на правядзенне гігіенічнай рэгістрацыі і сертыфікацыі маёмасці, сродкі ад рэалізацыі якой залічваюцца ў даход мясцовых бюджэтаў, кампенсуюцца мясцовымі фінансавымі органамі за кошт сродкаў мясцовых бюджэтаў на падставе прадстаўленых дакументаў аб фактычных затратах, засведчаных Міністэрствам аховы здароўя і (або) Дзяржаўным камітэтам па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі.

Сумы кампенсацыі адносяцца на змяншэнне даходаў рэспубліканскага і мясцовага бюджэтаў па адпаведных падраздзелах бюджэтнай класіфікацыі Рэспублікі Беларусь, на якія залічваюцца сродкі ад рэалізацыі маёмасці, затрыманай, арыштаванай, канфіскаванай або ператворанай у даход дзяржавы іншым спосабам (раздзел 43 «Паступленні ў сувязі з ажыццяўленнем мытнага кантролю» і раздзел 68 «Паступленні ад рэалізацыі маёмасці і скарбаў»)».

2. Гэты Указ уводзіцца ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**
24 жніўня 1998 г., г. Мінск.



# У АШМЯНАХ, ЯК І ПА ЎСЁЙ КРАІНЕ, ЖНІВО З'ЯЎЛЯЕЦЦА ВЫПРАБАВАННЕМ. НАЙПЕРШ — ЧАЛАВЕЧЫХ ЯКАСЦЯЎ

**На фоне ўсяе Гродзеншчыны Ашмянскі раён з'яўляецца ці не самым складаным у плане развіцця ці падтрымання сельскагаспадарчай вытворчасці. Нізкая ўрадлівасць глебы, няпросты рэльеф, які можа выклікаць захапленне хіба што ў аматараў горналыжнага спорту. Дадайце да гэтага ўласцівыя сёння ўсім астатнім раёнам складанасці — цяжкая сітуацыя з тэхнікай, праблемы з кадрамі на вёсцы, адсутнасць дастатковых сродкаў на выкананне агратэхнічных задач у тых аб'ёмах, якія яшчэ ўчора лічыліся абавязковымі. І ў выніку атрымаецца, што не дужа высокія ўраджаі з'яўляюцца плёнам заканамерным.**

Сёння ўборка збожжавых на Ашмяншчыне дасягнула эпіцэнтра. Пастаіць колькі дзён запар выдатнае, сонечнае надвор'е, не трэба будзе гадзінамі пасля ночы чакаць, пакуль раса спадзе, то за які тыдзень і прыбяруць збожжа. Зробяць гэта ўсё тымі ж у большасці сваёй старэнькімі «Енісеямі», «Нівамі», «Донамі». Працуе камбайнер на такой тэхніцы і ўсё чакае, ці вытрывае машына яшчэ адзін круг, другі, трэці... Праўда, літаральна ва ўсіх гаспадарках раёна як след адладжана работа службаў забеспячэння, абслугоўвання. Найперш — тэхнічнага. Хаця кіраўнікі гаспадарак, спецыялісты не забываюцца і пра астатнія клопаты. Узяць арганізацыю таго ж гарачага харчавання. Хіба можна гэтае пытанне назваць другасным?.. Вось і з Міхаілам Рыгоравічам Жураўлёвым, кіраўніком калгаса імя Багушэвіча, пазнаёміліся, пачалі размову ці не з самай раніцы. Камбайнеры яшчэ рупіліся каля машын, чакалі пакуль пасушэе колас пасля начнога дажджу. А старшыня разам са сваімі памочнікамі паспеў ужо абодва варыянты прадугледзець: як харчаванне і ў полі правесці, а калі трэба, то і да мехдвара падвезці.



Увогуле (перакканала ў гэтым не толькі размова са старшынёю Ашмянскага райвыканкама Віктарам Іванавічам Пракопчыкам, а і проста сустрэчы з радавымі людзьмі, вонкавыя ўражанні), у Ашмянах, на Ашмяншчыне прысутнічае нармальны, рабочы рытм. Здаецца, няма нервознасці, лішняй мітусні. Кожны займаецца сваімі справамі. Уборка, словам, праходзіць без усялякіх аўралаў, а згодна размеранаму жыццёваму календару. Таму адны спакойна жнуць. Другія спакойна ўпарадкоўваюць салому, працягваюць займацца кармамі ці рвуць лён. Трэція заворваюць пожню, рыхтуюць глебу да сяўбы, ды і сеюць. А каму трэба, то той не забываецца і пра жыллёвае будаўніцтва. У тым жа калгасе імя Багушэвіча з самых надзённых турбот — узвядзенне запланаваных сёлета да завяршэння дзесяці аднапавярховых дамкоў. І старшыня, пакуль дазваляюць наяўнасць будаўнічых матэрыялаў, пэўныя сродкі, не збіраецца гэтую справу ні на адзін дзень адкладваць. Бо сам цудоўна разумее, іншых да гэтага разумення падштурхоўвае: поспехі на жніве, работа ў калгасе высокакваліфікаваных механізатараў — усё гэта само па сабе не прыходзіць. Будзе жыллё ў гаспадарцы — будуць і ў вытворчасці лепшыя здабыткі. Зараз на тэрыторыі вёсак, якія ўваходзяць у калгас імя Багушэвіча, пражывае 1500 чалавек. А вось у гаспадарцы працуе толькі 235. Лічбы, як кажуць, гавораць самі за сябе. Як і ўсім зразумела, калгасу патрэбны прыліў свежых сіл. Спадзяванне — на моладзь, на сённяшніх выпускнікоў, школьнікаў.

Сустрэчы, знаёмствы перакаканалі: галоўнае, аснова, гарантыя поспеху — здольнасць да арганізацыі, абавязковасці і паслядоўнасць. Якраз гэтых рысаў, якасцяў не займаць старшыні Ашмянскага райвыканкама Віктару Пракопчыку, начальніку ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Раману Юроўскаму (дарэчы, нельга не падкрэсліць: пасаду гэтую па добрай волі заняў старшы выкладчык Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута кандыдат навук. Прыклад, пагадзіцеся, дастойны павагі).

Арганізаванасць ашмянцаў выявілася і ў тым, што наладжаны нармальныя стасункі з адміністрацыяй, кіраўнікамі гаспадарак Гродзенскага раёна, адкуль на дапамогу ў шэраг гаспадарак Ашмяншчыны прыйшлі і камбайны, і людзі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

НА ЗДЫМКАХ: старшыня калгаса М. Жураўлёў; будуецца новая калгасная вуліца.

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## КВЕТКІ — ПЕСНЯРУ

І сёлета ў дзень памяці незабыўнага дзядзькі Якуба да яго магілы прыйшлі добрыя людзі — пісьменнікі, навукоўцы, музейцы, родзічы. Пра неўміручасць творчасці народнага паэта прачулыя словы сказалі дырэктар Коласаўскага музея Зінаіда Камароўская, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Уладзімір Някляеў, майстры літаратуры Алесь Савіцкі і Генадзь Бураўкін.

**Сцяпан ІВАНЧЫК.**

## ЗАЯВА
### МІНІСТЭРСТВА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У СУВЯЗІ З АМЕРЫКАНСКІМІ РАКЕТНЫМІ ЎДАРАМІ Ў АФГАНІСТАНЕ І СУДАНЕ

Рэспубліка Беларусь цвёрда выступае супраць тэрарызму ва ўсіх яго праявах. Мы з'яўляемся актыўнымі ўдзельнікамі міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне барацьбы з тэрарызмам. Рэспубліка Беларусь рашуча асудзіла тэрарыстычныя акты ў Кеніі і Танзаніі.

Рэспубліка Беларусь лічыць, што ўсе вінаватыя ва ўчыненні гэтых і любых такіх антыгуманных злачынстваў павінны паўстаць перад судом і панесці заслужанае пакаранне па ўсёй строгасці закона. Такое патрабаванне міжнароднага права, такое патрабаванне простага пачуцця справядлівасці.

Разам з тым, Рэспубліка Беларусь лічыць недапушчальным аднабаковае, без адпаведнай санкцыі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый прымяненне ваеннай сілы ў мэтах барацьбы з тэрарызмам. Ракетныя ўдары ЗША ў Афганістане і ў Судане могуць прывесці да эскалацыі насілля, да новых ахвяраў, да новага вітка тэрарыстычных акцый. Ракеты і бомбы, нават высодакладныя, не разбіраюць невінаватага і вінаватага. Такія аднабаковыя сілавыя акцыі могуць мець непрадказальныя вынікі для міру і стабільнасці.

У сувязі з гэтым Рэспубліка Беларусь выказвае сваю цвёрдую прыхільнасць толькі да тых міжнародных акцый, у тым ліку і антытэрарыстычных, якія строга адпавядаюць літары і духу Статута ААН і нормам міжнароднага права.

*21 жніўня 1998 года.*

## ХРОНІКА АПОШНІХ ПАДЗЕЙ

● **«Забяспечыць пераемнасць улады ў 2000-м годзе»,** — было па словах Барыса Ельцына — яго «галоўным меркаваннем», калі ён прапанаваў Віктару Чарнамырдзіну зноў заняць пасаду кіраўніка ўрада. Выступаючы па тэлебачанні са зваротам да народа, прэзідэнт Расіі падкрэсліў, што па прычыне эканамічнай сітуацыі ў краіне, якая ўскладнілася, сёння патрэбны вопыт тых, каго прынята называць «цяжкавагамі». Галоўнымі вартасцямі Чарнамырдзіна Ельцын назваў «сумленнасць і прыстойнасць». «5 месяцаў назад ніхто не чакаў, што сусветны фінансавы крызіс так балюча ўдарыць па Расіі, таму цяпер неабходна не дапусціць адкату назад», — падкрэсліў прэзідэнт.

● **Прэзідэнт Расіі Ельцын** правёў учора сустрэчу з Віктарам Чарнамырдзіным. Падрабязнасці сустрэчы пакуль невядомыя. Пасля размовы з Чарнамырдзіным Ельцын сустракаецца з кіраўнікамі міністэрстваў абароны і ўнутраных спраў і з кіраўніком ФСБ. У адстаўку разам з Сяргеем Кірыенкам быў адпраўлены ўвесь урад. Паводле паведамленняў, Чарнамырдзін даў згоду зноў узначаліць кабінет толькі пры ўмове, што ён будзе асабіста кантраляваць назначэнне ўсіх міністраў. Сёння раніцай Ельцын накіраваў у Думу пісьмо з прапановай зацвердзіць Чарнамырдзіна на пасадзе прэм'ера.

● **Савет Дзярждумы** даручыў Селязнёву рэкамендаваць прэзідэнту адклікаць назначэнне Чарнамырдзіна. Па словах лідэра групы «Народаўладдзе» Мікалая Рыжкова, «спачатку патрэбна праграма новага кабінета». Сам Чарнамырдзін заявіў, што назаве новы састаў свайго кабінета толькі пасля таго, як Дума зацвердзіць яго назначэнне. В. а. прэм'ера заклікаў Думу пакуль не разглядаць праект стабілізацыйных законапраектаў, прапанаваных урадам Кірыенкі. Нечарговае пасяджэнне Думы, што было намечана на сёння, — адменена.

● **Шэсць былых высокапастаўленых чыноўнікаў** албанскага ўрада, у тым ліку два былыя міністры, арыштаваны па абвінавачанню ў злачынствах супраць чалавецтва. У заяве ўладаў з гэтай нагоды гаворыцца, што ў час мінулагодніх беспарадкаў міністры далі загад выкарыстоўваць хімічную зброю і баявую тэхніку супраць цывільнага насельніцтва. Лідэр апазіцыйнай дэмакратычнай партыі Берыша заявіў журналістам, што арышты зроблены па палітычных матывах і заклікаў да правядзення акцый пратэсту.

● **У амерыканскіх штатах** Фларыда, Паўночная і Паўднёвая Караліна прымаюцца экстраныя меры ў сувязі з набліжэннем урагана Боні, эпіцэнтр якога цяпер знаходзіцца непадалёк ад Багамскіх астравоў. Ураган абрушыцца на ўсходняе ўзбярэжжа ЗША ў сярэдзіне тыдня. Як чакаецца, сіла ветру будзе дасягаць амаль 200 кіламетраў у гадзіну.

● **Канцлер Гельмут Коль** даў старт завяршальнай стадыі перадвыбарнай кампаніі хрысціянскіх дэмакратаў напярэдадні верасnёўскіх парламенцкіх выбараў. У сваім выступленні на мітынгу ў Дортмундзе Коль, які мае намер стаць канцлерам у рэкордны пяты раз запар, падкрэсліў уласныя заслугі ў аб'яднанні Германіі і прасоўванні да адзінай еўрапейскай валюты. У апытаннях грамадскай думкі сацыял-дэмакраты пакуль лідзіруюць з адрывам у 3—5 пунктаў.

**Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў.**

## Аушаў пра Чарнамырдзіна

«Калі такому моцнаму гаспадарніку і дальнабачнаму палітыку, якім з'яўляецца В. Чарнамырдзін, удасца выратаваць краіну ад эканамічнага краху, то яго перамога на маючых адбыцца выбарах прэзідэнта краіны забяспечана» — заявіў прэзідэнт Інгушэціі.

**Інтэрфакс.**

## У ШКОЛАХ БЕЛАРУСІ ЎВОДЗЯЦЦА ПАДРЫХТОЎЧЫЯ КЛАСЫ

Для агульнаадукацыйнай школы рэспублікі з 1 верасня пачынаецца новы этап у яе пераходзе на 12-гадовае навучанне: у ёй уводзяцца падрыхтоўчыя класы для 6-гадовых дзяцей. Аб гэтым заявіў намеснік міністра адукацыі Генадзь Дылян, выступаючы 24 жніўня на прэс-канферэнцыі, прымеркаванай да пачатку новага навучальнага года. «Без шасцігодак, — сказаў ён, — мэтазгоднасць 12-гадовай школы можна ставіць пад сумненне».

Як вядома, асноўныя палажэнні рэформы сярэдняй школы, якая рыхтуецца ўжо пяты год, такія: пераход на навучанне з 6 гадоў (у першай палове дня — вучань, у другой — выхаванец дзіцячага садка); тэрмін навучання — 12 гадоў (фактычна год дабаўляецца паміж 6-м і 7-м класамі); 5-дзённы тыдзень; пераход на новыя праграмы навучання і новыя падручнікі; першы выпуск у рэфармаваных школах — у 2010 годзе. Чакаемы эфект рэформы — паляпшэнне якасці адукацыі, памяншэнне нагрузкі на вучняў і настаўнікаў.

Цяперашняя агульнаадукацыйная школа, лічыць Дылян, «шмат у чым яшчэ савецкая», калі рыхтавалі кожнага выпускніка па любому прадмету так, каб ён мог паступіць у любую ВНУ. Не здзіўляе таму, што і зараз навучанне ў агульнаадукацыйнай школе ўсё яшчэ «затэарэтызавана», а нагрузка вучняў па-ранейшаму высокая — 40 гадзін у тыдзень; павелічэнне тэрміну навучання да 12 гадоў дазволіць знізіць тыднёвую нагрузку да 34 гадзін.

Рэформа агульнаадукацыйнай школы — гэта толькі частка пабудовы нацыянальнай сістэмы адукацыі, якая прадугледжвае новыя падручнікі і вучэбныя дапаможнікі.

Для падрыхтоўчых класаў школ аўтарскімі калектывамі падрыхтавана 14 падручнікаў, увесь тыраж якіх, паводле звестак Г. Дыляна, ужо аддрукаваны і завезены па месцах навучання шасцігодак. Усяго ж за пяць гадоў, па дадзеных Міністэрства адукацыі, сярэдняя школа рэспублікі атрымала 920 найменняў падручнікаў, 520 з якіх падрыхтаваны айчыннымі калектывамі аўтараў.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН.**

*XVII ЧЭМПІЯНАТ ЕЎРОПЫ ПА ЛЁГКАЙ АТЛЕТЫЦЫ*




## НАШЫ ВЫЗНАЧЫЛІСЯ МЕДАЛЬНАЙ СЦІПЛАСЦЮ
### Спецыяльны карэспандэнт «Звязды» перадае з Будапешта

Познім вечарам у нядзелю Будапешт развітаўся з чэмпіянатам Еўропы па лёгкай атлетыцы, які безагаворачна выйгралі каманды Вялікабрытаніі, Германіі і Расіі.

У апошнія некалькі дзён, калі на «Непштадыёне» было горача, бо ў суботу-нядзелю разыгрывалася ажно 22 камплекты медалёў з 46, надвор'е рэзка сапсавалася — пайшлі дажджы, падуў халаднаваты вецер, і ад невыноснай духаты, якой венгерская сталіца сустракала удзельнікаў еўрапершынства, і слядоў не засталося.

Сярод «зоркавых» каманд даволі сціпла глядзелася каманда Беларусі — другі «бронзавы» медаль для нашай рэспублікі заваявала ў сямібор'і Наталля Сазановіч. Хоць, безумоўна, беларусы заслугоўвалі большага. У кроку ад узнагарод засталіся нашы кідальніца дыска Эліна Зверава і Аляксандр Главацкі — трайны скачок. Не хапіла шанцавання дыскабольшчыку Уладзіміру Дуброўшчыку.

**Вынікі апошніх дзён спаборніцтваў 22.08.**

**Кіданне молата (жанчыны)**
1. Міхаела Мілентэ (Румынія) — 71,17 м
2. Вольга Кузянкова (Расія) — 69,28
3. Кірстэн Мюнхоў (Германія) — 65,61.
...6. Людміла Губкіна (Беларусь) — 63,03
...9. Святлана Судак (Беларусь) — 60,14.

**Сямібор'е (жанчыны)**
1. Дэліс Льюіс (Вялікабрытанія)
2. Урсула Уладарчык (Польшча)
3. Наталля Сазановіч (Беларусь).

23.08.98 г.

**Марафон (жанчыны)**
1. Мануэла Мачада (Партугалія) — 2:27:10
2. Мадзіна Біктагірава (Расія) — 2:28:01
3. Маура Вісіконтэ (Італія) — 2:28:31.
...21. Наталля Галушка (Беларусь) — 2:36:26
...27. Алена Мазоўка (Беларусь) — 2:38:01
...28. Алена Вініцкая (Беларусь) — 2:38:08
...29. Галіна Карнашэвіч (Беларусь) — 2:38:50.

**Кіданне дыска (мужчыны)**
1. Ларс Рыдэль (Германія) — 67.07 м
2. Юрген Шульц (Германія) — 66.69
3. Віргіліус Алекна (Літва) — 66.46
...6. Уладзімір Дуброўшчык (Беларусь) — 63.96
...12. Леанід Чараўко (Беларусь) — 59.13.

**Трайны скачок (мужчыны)**
1. Джанатан Эдвардс (Вялікабрытанія) — 17.99 м
2. Дзяніс Капусцін (Расія) — 17.45
3. Расціслаў Дзімітраў (Балгарыя) — 17.26.
4. Аляксандр Главацкі (Беларусь) — 17.22.

У астатніх намінацыях нашы не выступалі.

**РАЗМЕРКАВАННЕ МЕДАЛЁЎ**

| Краіна | Золата | Серабро | Бронза | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| 1. Вялікабрытанія | 9 | 4 | 3 | 16 |
| 2. Германія | 8 | 7 | 8 | 23 |
| 3. Расія | 6 | 9 | 7 | 22 |
| 6. Украіна | 3 | 2 | 1 | 6 |
| 19. Латвія | - | 1 | - | 1 |
| 21. Беларусь | - | - | 2 | 2 |

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**



# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны»

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 17 чэрвеня 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 24 чэрвеня 1998 года*

**Артыкул 1.** Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 13 лістапада 1992 года «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., №30, арт. 504; 1995 г., №18, арт. 199) наступныя змяненні і дапаўненні:

1. У тэксце Закона слова «ДзІнАС» замяніць словамі «Камітэт па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь» у адпаведным склоне.

2. У тэксце Закона словы «Кабінет Міністраў» замяніць словамі «Савет Міністраў» у адпаведным склоне.

3. У пункце 1 артыкула 3 словы «не складае іх сутнасці» замяніць словамі «складае іх сутнасць».

4. Артыкул 6 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**«Артыкул 6. Дзяржаўная палітыка ў галіне ўліку і аховы гісторыка-культурнай спадчыны**

Дзяржаўная палітыка ў галіне ўліку і аховы гісторыка-культурнай спадчыны вызначаецца ў Рэспубліцы Беларусь Нацыянальным сходам Рэспублікі Беларусь і ажыццяўляецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь праз рэспубліканскі орган дзяржаўнага кіравання па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і яго прадстаўнікоў у мясцовых выканаўчых і распарадчых органах».

5. У артыкуле 7:

у частцы першай словы «Дзяржаўная інспекцыя Рэспублікі Беларусь па ахове гісторыка-культурнай спадчыны*» замяніць словамі «Камітэт па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь»;

у частцы трэцяй слова «яе» замяніць словам «яго».

6. Артыкул 9 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**«Артыкул 9. Кіраўніцтва Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь**

Камітэт па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь узначальвае старшыня, які назначаецца на пасаду і вызваляецца ад пасады Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Міністра культуры Рэспублікі Беларусь са згоды Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».

7. Артыкул 10 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**«Артыкул 10. Абмежаванне камерцыйнай дзейнасці Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь**

Камітэту па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь забараняецца займацца камерцыйнай дзейнасцю».

8. Частку трэцюю артыкула 11 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Статут і персанальны склад Навукова-метадычнай рады зацвярджаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Міністра культуры».

9. Пункт 2 артыкула 13 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«2) з нанава выяўленых аб'ектаў ці прадметаў, бытаванне якіх у чалавечай дзейнасці было да моманту выяўлення на пэўны час перапынена і якія на момант выяўлення не маюць уласніка».

10. Артыкул 14 пасля слоў «можа быць унесена» дапоўніць словамі «ў Камітэт па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь».

11. У артыкуле 15:

у назве артыкула словы «ўтоеных раней» замяніць словам «скрытых»;

у частцы першай словы «ўтоены раней рухомы прадмет, групу прадметаў (скарб) або іншую рухомую знаходку, што можа» замяніць словамі «рухомы прадмет ці групу прадметаў (скарб) або іншую рухомую знаходку, прадугледжаныя пунктам 2 артыкула 13 дадзенага Закона, што могуць»;

частку чацвёртую выключыць;

часткі пятую, шостую, сёмую, восьмую, дзевятую, дзесятую, адзінаццатую і дванаццатую лічыць адпаведна часткамі чацвёртай, пятай, шостай, сёмай, восьмай, дзевятай, дзесятай і адзінаццатай;

у частцы чацвёртай словы «ўтоены нерухомы аб'ект або фрагмент нерухомага аб'екта (архітэктурныя дэталі, элементы дэкору, вырабы мастацкага аздаблення, рэшткі роспісаў і інш.)» замяніць словамі «нерухомы аб'ект (архітэктурныя дэталі, элементы дэкору, вырабы мастацкага аздаблення, рэшткі роспісаў, збудаванняў і інш.), прадугледжаны пунктам 2 артыкула 13 дадзенага Закона».

12. Артыкулы 16 і 17 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**«Артыкул 16. Прафесіянальнае выяўленне матэрыяльных аб'ектаў або нематэрыяльных праяўленняў чалавечай творчасці, надзеленых вартасцямі каштоўнасці**

Усе каштоўныя ў гісторыка-культурных адносінах матэрыяльныя аб'екты, прадметы і нематэрыяльныя праяўленні чалавечай творчасці, якія выяўляюцца або ўводзяцца ў навуковы ўжытак падчас прафесіянальнай навукова-даследчай дзейнасці (археалагічнага вывучэння культурнага слоя, натурных даследаванняў гістарычных аб'ектаў і прадметаў, экспедыцыйнай дзейнасці, вывучэння фондаў музеяў, бібліятэк, архіваў і інш.), у абавязковым парадку павінны быць навукова зафіксаваны з прадстаўленнем экземпляра фіксацыйных матэрыялаў у Банк звестак аб гісторыка-культурнай спадчыне Рэспублікі Беларусь* у адпаведнасці з артыкулам 25 дадзенага Закона. Складальнікі фіксацыйных матэрыялаў маюць на іх аўтарскае права.

Адказнасць за фіксацыю, а таксама за зберажэнне зафіксаваных знаходак, што выяўляюцца падчас навукова-даследчай дзейнасці (да іх перадачы пастаяннаму ўласніку ці карыстальніку), ускладаецца на асобу, якая выявіла знаходку, а ў выпадку, калі апошняя выяўлена ў выніку работы даследчага калектыву, — на яго кіраўніка (кіраўніка экспедыцыі).

Даследчыкі не маюць права распараджацца выяўленымі імі падчас прафесіянальнай навукова-даследчай дзейнасці матэрыяльнымі прадметамі ці аб'ектамі, якія прадугледжаны пунктам 2 артыкула 13 дадзенага Закона і могуць уяўляць матэрыяльную гісторыка-культурную каштоўнасць або з'яўляцца эталонамі духоўных фіксаваных каштоўнасцей.

Прадметы, якія маюць прыметы адпаведнасці крытэрыям, вызначаным у артыкуле 19 дадзенага Закона, выяўленыя пры спробе вывазу з Рэспублікі Беларусь пры адсутнасці атрыманага ва ўстаноўленым парадку дазволу на іх вываз, могуць быць затрыманы ў адпаведнасці з мытным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Рухомыя аб'екты, што могуць уяўляць гісторыка-культурную каштоўнасць, затрыманыя мытнымі ці іншымі праваахоўнымі органамі Рэспублікі Беларусь, вынятыя і канфіскаваныя па справах аб адміністрацыйных правапарушэннях або крымінальных справах, перадаюцца ў адпаведнасці з канчатковым рашэннем па справе ўласніку або ў адзін з дзяржаўных музеяў рэспубліканскага або абласнога падпарадкавання ў адпаведнасці з яго профілем або тэрытарыяльным размяшчэннем. Навуковая апрацоўка перададзеных такім чынам прадметаў ці аб'ектаў і прадстаўленне экземпляра фіксацыйных матэрыялаў у Банк звестак ажыццяўляюцца музейнай установай, якой быў перададзены адпаведны прадмет ці аб'ект.

Прадстаўленне найбольш адметных з выяўленых падчас прафесіянальнай навукова-даследчай дзейнасці каштоўных у гісторыка-культурных адносінах прадметаў ці аб'ектаў або нематэрыяльных праяўленняў чалавечай творчасці на разгляд Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь для надання ім статусу каштоўнасці ажыццяўляецца ў парадку, прадугледжаным артыкулам 14 дадзенага Закона.

**Артыкул 17. Узнагароджанне за выяўленне каштоўных у гісторыка-культурных адносінах матэрыяльных аб'ектаў або нематэрыяльных праяўленняў чалавечай творчасці**

У выпадку надання статусу каштоўнасці матэрыяльнаму аб'екту або нематэрыяльнаму праяўленню чалавечай творчасці юрыдычнай ці фізічнай асобе, што ўнесла прапанову аб наданні гэтага статусу, можа быць выплачана ўзнагароджанне. Неабходнасць выплаты і памер узнагароджання вызначаюцца Навукова-метадычнай радай і канчаткова ўстанаўліваюцца Камітэтам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь.

Калі выпадкова выяўленая рухомая знаходка, прадугледжаная пунктам 2 артыкула 13 дадзенага Закона ў адпаведнасці з артыкулам 81 дадзенага Закона, перадаецца ўласніку той каштоўнасці, у складзе якой (на тэрыторыі якой) яна выяўлена, апошні павінен ва ўстаноўленым парадку выплаціць асобе, якая выявіла знаходку, узнагароджанне ў памеры не менш 25 працэнтаў яе кошту, вызначанага музейнай экспертнай камісіяй.

Калі выпадкова выяўленая рухомая знаходка, прадугледжаная пунктам 2 артыкула 13 дадзенага Закона ў адпаведнасці з артыкулам 81 дадзенага Закона, паступае ў Дзяржаўны музей Рэспублікі Беларусь, апошні павінен ва ўстаноўленым парадку выплаціць асобе, што яе выявіла, узнагароджанне ў памеры 25 працэнтаў яе кошту, вызначанага музейнай экспертнай камісіяй».

13. У артыкуле 18:

у частцы першай:

словы «Навукова-метадычная рада» замяніць словамі «Камітэт па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь»;

дапоўніць частку словамі «на пасяджэнні Навукова-метадычнай рады»;

у частцы другой словы «Навукова-метадычнай радай» замяніць словамі «Камітэтам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь»;

частку трэцюю выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Па выніках разгляду Навукова-метадычнай радай кожнай з паступіўшых прапаноў аб наданні статусу каштоўнасці, а таксама прадстаўленых на разгляд аб'ектаў і прадметаў, прадугледжаных пунктам 2 артыкула 13 дадзенага Закона, прымаецца адпаведнае рашэнне».

14. Артыкул 24 дапоўніць новай часткай наступнага зместу:

«Складанне ўліковых дакументаў (без дапаўненняў) ажыццяўляецца за кошт сродкаў уласнікаў каштоўнасці».

15. У артыкуле 25:

у частцы першай словы «Банк звестак аб гісторыка-культурнай спадчыне Рэспублікі Беларусь*» замяніць словамі «Банк звестак»;

частку чацвёртую выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Уласнікі і карыстальнікі каштоўнасцей павінны ў абавязковым парадку бясплатна перадаваць у Банк звестак па аднаму экземпляру падрыхтаванай па іх заказу навукова-даследчай і праектна-каштарыснай дакументацыі на ўсе віды работ на каштоўнасцях і ў зонах іх аховы»;

частку сёмую выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Банк звестак бясплатна прадастаўляе магчымасць азнаёміцца з сабранай у ім інфармацыяй толькі дзяржаўным органам аховы гісторыка-культурнай спадчыны, мясцовым архітэктурным службам і тым юрыдычным і фізічным асобам, якія прадстаўляюць яму інфармацыю аб усіх выяўленых імі новых звестках і падрыхтаваных матэрыялах аб гісторыка-культурнай спадчыне Беларусі».

16. У частцы першай артыкула 26 словы «пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны» замяніць словамі «Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь».

17. У артыкуле 31 словы «а таксама за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту і іншых крыніц фінансавання» выключыць.

18. У артыкуле 32:

у частцы першай слова «абавязана» замяніць словам «абавязаны»;

у частцы другой слова «самой» выключыць.

19. У артыкуле 33 словы «(па вызначэнню Навукова-метадычнай рады)» выключыць.

20. Артыкул 35 дапоўніць новай часткай наступнага зместу:

«Забараняецца выдача ў карыстанне наведвальнікам бібліятэк і архіваў (незалежна ад формы ўласнасці і падпарадкаванасці) арыгіналаў матэрыяльных нерухомых каштоўнасцей або эталонаў духоўных фіксаваных каштоўнасцей, унікальнасць або дрэнны тэхнічны стан якіх ствараюць пагрозу іх зберажэнню пры неасцярожным абыходжанні з імі. Аднясенне каштоўнасцей да групы, на якую распаўсюджваюцца такія абмежаванні, праводзіцца Камітэтам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь на падставе заключэння Навукова-метадычнай рады праз асобыя пазначэнні ў Дзяржаўным спісе гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь і афіцыйнае паведамленне аб гэтым кіраўніцтву адпаведнай бібліятэкі або архіва».

21. Частку другую артыкула 36 дапоўніць новым сказам наступнага зместу: «Пры неабходнасці ў спецыяльна прызначаны камплект аздаблення ўключаецца дакладная копія каштоўнасці, вырабленая за кошт уласніка калекцыі».

22. Артыкул 38 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**«Артыкул 38. Правы ўласніка калекцыі**

Юрыдычная ці фізічная асоба, якая з'яўляецца ўласнікам калекцыі або валодае рухомым прадметам, надзеленым вартасцямі гісторыка-культурнай каштоўнасці, мае права дэклараваць законнасць сваіх правоў уласнасці на калекцыю (яе частку або асобны прадмет) без дакументальнага пацвярджэння гэтых правоў.

У выпадку, калі калекцыя (яе частка) прызнана каштоўнасцю, уласнік калекцыі мае права бясплатна атрымліваць ад дзяржаўных музеяў, бібліятэк і архіваў наступныя паслугі:

1) вызначэнне ўмоў захавання прынятых пад ахову дзяржавы прадметаў калекцыі;

2) дапамогу ў правядзенні навуковай інвентарызацыі і навуковай апрацоўкі прынятых пад ахову дзяржавы прадметаў калекцыі;

3) захаванне прынятых пад ахову дзяржавы прадметаў калекцыі ў дзяржаўных установах адпаведнага профілю. Пры гэтым дзяржаўная ўстанова адпаведнага профілю мае права выкарыстання перададзеных ёй на захаванне прадметаў для мэт навукі і экспанавання;

4) гарантыю бяспекі калекцыі ці яе асобных прадметаў у час экспанавання ў музеях і перавозкі.

Па жаданню ўласніка калекцыі (яе часткі) або асобнай каштоўнасці Камітэт па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь, а таксама дзяржаўныя музеі, бібліятэкі і архівы, прыцягнутыя да аказання пералічаных вышэй паслуг, абавязаны гарантаваць канфідэнцыяльнасць звестак аб уласніку калекцыі (яе часткі) або асобнай каштоўнасці».

23. Частку другую артыкула 39 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Прадметы, якія маюць прыметы адпаведнасці крытэрыям, прадугледжаным артыкулам 19 дадзенага Закона, могуць быць вывезены за межы Рэспублікі Беларусь пры наяўнасці пісьмовага дазволу Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь. Парадак выдачы дазволу і пералік прымет адпаведнасці крытэрыям, прадугледжаным артыкулам 19 дадзенага Закона, вызначаюцца Камітэтам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь».

24. У артыкуле 40 слова «ёю» замяніць словам «ім».

25. У артыкуле 46 словы «па прадстаўленню» замяніць словамі «на падставе рашэння».

26. Артыкулы 48 і 49 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**«Артыкул 48. Віды навукова-даследчых і рэстаўрацыйна-аднаўленчых работ, што датычацца каштоўнасцей**

Віды навукова-даследчых і рэстаўрацыйна-аднаўленчых работ, што непасрэдна фізічна датычацца матэрыяльных каштоўнасцей або эталонаў духоўных фіксаваных каштоўнасцей, маюць наступныя характарыстыкі:

1) рамонт — комплекс мерапрыемстваў, накіраваных на паляпшэнне тэхнічнага стану аб'ектаў без унясення змен у іх канструктыўнае і эстэтычнае вырашэнне;

2) натурныя даследаванні — комплекс мерапрыемстваў па высвятленню і ўдакладненню якасцей і асаблівасцей аб'ектаў;

3) кансервацыя — комплекс мерапрыемстваў па часоваму або доўгатэрміноваму забеспячэнню захаванасці наяўнага стану аб'ектаў;

4) рэстаўрацыя — комплекс мерапрыемстваў, накіраваных на навукова абгрунтаванае аднаўленне страчаных фрагментаў і каштоўных якасцей аб'ектаў;

5) рэгенерацыя — комплекс мерапрыемстваў, накіраваных на аднаўленне цэласнасці і страчанага агульнага кампазіцыйнага вырашэння аб'ектаў (у асноўным комплексных);

6) рэканструкцыя — комплекс мерапрыемстваў па паляпшэнню тэхнічнага стану і функцыянальных вартасцей аб'ектаў з дапушчэннем частковых змен канструктыўных і неістотных фізічных асаблівасцей аб'ектаў;

7) аднаўленне — навукова абгрунтаванае поўнае або частковае паўторнае стварэнне аб'ектаў (для нерухомых матэрыяльных каштоўнасцей абавязкова на месцы іх папярэдняга існавання);

8) прыстасаванне — комплекс мерапрыемстваў па адаптацыі аб'ектаў да сучасных патрэб і асаблівасцей сучаснага тэхнічнага ўтрымання;

9) дапаўненне — комплекс мерапрыемстваў па ўтварэнню нанава ўводзімых дапаўненняў да аб'ектаў, у тым ліку і па завяршэнню своечасова нерэалізаваных аўтарскіх задум;

10) раскрыццё — комплекс мерапрыемстваў па пазбаўленню каштоўнасцей позніх дысаніруючых напластаванняў.

**Артыкул 49. Віды работ, якія маюць дачыненне да каштоўнасцей і могуць праводзіцца без ведама Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь**

Мерапрыемствы, якія праводзяцца штодзённа або з іншай перыядычнасцю, па забеспячэнню належнага тэхнічнага і санітарнага стану каштоўнасцей і работы па іх рамонту ў межах, прадугледжаных ахоўным абавязацельствам, падпісаным уласнікам каштоўнасцей, могуць ажыццяўляцца без паведамлення ў Камітэт па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь».

27. Артыкул 50 дапоўніць новай часткай наступнага зместу:

«Дазвол Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь на выкананне навукова-даследчых і рэстаўрацыйна-аднаўленчых работ па пераліку іх характарыстык, вызначаных артыкулам 48 дадзенага Закона, не вызваляе заказчыка ад неабходнасці афармлення дакументаў на правядзенне такіх работ у мясцовых органах дзяржаўнага кіравання ў парадку, прадугледжаным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь».

28. Назву артыкула 52 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**«Артыкул 52. Сертыфікат на права правядзення работ на каштоўнасцях».**

29. Артыкул 53 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**«Артыкул 53. Парадак выдачы сертыфікатаў**

Сертыфікаты выдаюцца Камітэтам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь пасля разгляду заключэнняў аб узроўні кваліфікацыі кандыдатур на атрыманне сертыфікатаў.

Заключэнні па запыту Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь выдаюцца бясплатна наступнымі ўстановамі:

1) Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі — на даследаванне археалагічных аб'ектаў;

2) Навукова-метадычнай радай — на кіраўніцтва распрацоўкай навукова-праектнай дакументацыі на вытворчасць розных відаў работ на каштоўнасцях і аўтарскім наглядам за іх выкананнем (гэты від сертыфіката дае права праводзіць усе віды работ на каштоўнасцях, за выключэннем прадугледжаных пунктам 1 гэтага артыкула), а таксама на работы, звязаныя з непасрэдным уздзеяннем на адметныя якасці гісторыка-культурных каштоўнасцей і іх фрагментаў, страта аўтэнтычнасці якіх недапушчальная (гэты від сертыфіката дае права на даследчыя работы ў адпаведных спецыфічных напрамках іх правядзення).

У сертыфікаце ў абавязковым парадку ўказваецца ступень кваліфікацыі яго ўладальніка (класнасць спецыяліста) і ступень яго допуску да вытворчасці пэўных відаў работ на каштоўнасцях або да кіраўніцтва работамі на каштоўнасцях адпаведных катэгорый».

30. У частцы другой артыкула 54 словы «Акадэмія навук Беларусі», «Акадэміі навук» замяніць адпаведна словамі «Нацыянальная акадэмія навук Беларусі», «Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі».

31. У артыкуле 56 словы «прадугледжаным цэнтральным» замяніць словамі «вызначаным рэспубліканскім».

32. Артыкул 60 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**«Артыкул 60. Узгадненне праектна-каштарыснай дакументацыі**

Праектна-каштарысная дакументацыя на правядзенне работ, выкананне якіх датычыцца гісторыка-культурных каштоўнасцей або выходзіць за межы рэжымаў утрымання зон аховы, што ўстаноўлены ў парадку, прадугледжаным артыкуламі 29 і 30 дадзенага Закона, павінна быць узгоднена з Камітэтам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь.

Узгадненне праектна-каштарыснай дакументацыі з Камітэтам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь не пазбаўляе неабходнасці яе ўзгаднення з іншымі дзяржаўнымі органамі ў парадку, прадугледжаным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

У выпадку, калі пры ўзгадненні праектна-каштарыснай дакументацыі патрабаванні іншых дзяржаўных органаў супярэчаць патрабаванням Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь, выконваюцца патрабаванні гэтага Камітэта».

33. Артыкул 69 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**«Артыкул 69. Абавязкі ўласнікаў матэрыяльных каштоўнасцей**

Уласнік матэрыяльнай каштоўнасці абавязаны:

1) зарэгістраваць свае правы на каштоўнасць у Камітэце па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь;

2) узяць на сябе абавязкі па зберажэнню каштоўнасці, падпісаўшы складзенае Камітэтам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь ахоўнае абавязацельства, у адпаведнасці з якім:

а) забяспечыць зберажэнне каштоўнасці;

б) забяспечыць доступ да каштоўнасці спецыялістам, якія з дазволу Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь маюць права на яе вывучэнне;

в) перыядычна, па дамоўленасці з Камітэтам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь і адпаведнымі ўстановамі культуры, прадастаўляць доступ да каштоўнасці грамадскасці на тэрмін не менш шасці месяцаў на працягу кожных дзесяці гадоў;

г) паведаміць у Камітэт па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь аб акалічнасцях, якія пагражаюць захаванасці каштоўнасці;

д) захоўваць калекцыі, бібліятэкі і іншыя сукупнасці каштоўнасцей, тэматычна або камплектна сабраныя ў іх цэласнасці.

Пры заключэнні дагавораў куплі-продажу, дарэння і іншых формах перадачы правоў уласнасці на каштоўнасць новы ўласнік абавязаны не пазней чым у месячны тэрмін з моманту заключэння здзелкі падпісаць ахоўнае абавязацельства. Без выканання гэтай умовы здзелка прызнаецца несапраўднай.

Пры перадачы каштоўнасці ў спадчыну наследнік абавязаны падпісаць ахоўнае абавязацельства да заканчэння прадугледжанага заканадаўствам тэрміну прыняцця маёмасці ў спадчыну. Пры невыкананні гэтай умовы прымяняюцца правілы аб непрыняцці спадчыны ў тэрмін (адмаўленні ад спадчыны)».

34. У артыкуле 70:

у пункце 2 словы «валодання ці карыстання» выключыць;

у пункце 4 словы «войск, замежным юрыдычным ці фізічным асобам» замяніць словамі «пагранічных і чыгуначных войск».

35. У артыкуле 71:

пункт 1 выключыць;

пункты 2, 3, 4, 5, 6 лічыць адпаведна пунктамі 1, 2, 3, 4, 5;

у пункце 5 словы «пры наяўнасці даведкі аб недастатковай матэрыяльнай забяспечанасці» замяніць словамі «пры адсутнасці ўласных сродкаў».

36. У артыкуле 73 слова «генетычна» выключыць.

37. У артыкуле 78:

у частцы першай словы «і ўнутраных войск» замяніць словамі «унутраных, пагранічных і чыгуначных войск, пры ўмове афіцыйнага азнаямлення юрыдычнай ці фізічнай асобы, якой перадаецца каштоўнасць, з патрабаваннямі, выкладзенымі ў ахоўным абавязацельстве»;

частку трэцюю выключыць.

38. Частку трэцюю артыкула 79 выключыць.

39. Артыкул 80 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**«Артыкул 80. Вызначэнне правоў уласнасці на каштоўнасці, якія на момант іх выяўлення або надання ім статусу каштоўнасці не маюць уласніка**

Аднесеныя да каштоўнасцей аб'екты, прадметы або іншыя адметныя вынікі і сведчанні гістарычнага і духоўнага развіцця народа Беларусі, прадугледжаныя пунктам 2 артыкула 13 дадзенага Закона, перадаюцца ва ўласнасць:

1. Нерухомыя матэрыяльныя:

а) калі знаходзяцца ў складзе або на тэрыторыі аб'екта (ансамбля, комплексу), якому ўжо нададзены статус каштоўнасці, — яго ўласніку;

б) у астатніх выпадках — уласніку зямлі, на якой размешчана каштоўнасць.

Пры адмове юрыдычнай ці фізічнай асобы, якой у адпаведнасці з пунктам 1 гэтага артыкула перадаюцца правы ўласнасці на каштоўнасць, ад выканання абавязкаў па яе зберажэнню каштоўнасць перадаецца ў камунальную ўласнасць.

2. Рухомыя матэрыяльныя і эталоны духоўных фіксаваных каштоўнасцей:

а) калі выяўлены ў складзе або на тэрыторыі аб'екта (ансамбля, комплексу), якому нададзены статус каштоўнасці, і не ўтрымліваюць банкаўскіх актываў, — яго ўласніку;

б) у астатніх выпадках — дзяржаве з умовай захавання ў дзяржаўных музеях або архівах.

Уласнік прынятага пад ахову дзяржавы ў адпаведнасці з дадзеным Законам аб'екта, на тэрыторыі якога выяўлена матэрыяльная рухомая каштоўнасць, якая ўтрымлівае банкаўскія актывы, мае права выкупу яе (або яе часткі) у дзяржавы з умовай утрымання набытку на месцы яго выяўлення.

3. Духоўныя фіксаваныя каштоўнасці — Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Дзяржаўны орган (установа) або мясцовы выканаўчы і распарадчы орган мае права перадаваць уласнасць на каштоўнасць іншаму дзяржаўнаму органу (установе), накіроўваць на публічны продаж (аўкцыён) або, калі продаж немагчымы, бясплатна перадаваць каштоўнасць ва ўласнасць іншай юрыдычнай ці фізічнай асобе, якая абавязуецца забяспечыць зберажэнне каштоўнасці ў адпаведнасці з дадзеным Законам.

Забараняецца перадаваць правы ўласнасці на каштоўнасць юрыдычнай ці фізічнай асобе, не здольнай ажыццяўляць свае абавязкі па яе ахове.

У парадку, прадугледжаным гэтым артыкулам, вызначаюцца таксама правы ўласнасці на каштоўнасці (эталоны каштоўнасцей), якіх прымусова пазбаўлены ўласнік у адпаведнасці з артыкулам 79 дадзенага Закона, а таксама на прадметы або аб'екты, звязаныя з каштоўнасцямі, вызначаныя ў артыкуле 43 дадзенага Закона».

40. Артыкул 81 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**«Артыкул 81. Вызначэнне правоў уласнасці на нанава выяўленыя, скрытыя раней матэрыяльныя аб'екты або прадметы, якія не набылі статусу каштоўнасці**

1. Нерухомыя аб'екты, прадугледжаныя пунктам 2 артыкула 13 дадзенага Закона, але якія не з'яўляюцца гісторыка-культурнымі каштоўнасцямі, паступаюць ва ўласнасць карыстальнікаў зямлі, на якой яны выяўлены.

2. Рухомыя прадметы, прадугледжаныя пунктам 2 артыкула 13 дадзенага Закона, але якія не з'яўляюцца гісторыка-культурнымі каштоўнасцямі і не ўтрымліваюць банкаўскіх актываў, паступаюць ва ўласнасць:

а) уласнікаў каштоўнасцей — у выпадку, калі выяўлены ў складзе або на тэрыторыі гэтых каштоўнасцей;

б) юрыдычных ці фізічных асоб, якія фінансавалі навуковую экспедыцыю, — у выпадку, калі яны выяўлены ў выніку прафесіянальнай навукова-даследчай дзейнасці і не вызначаны падпунктам «а» пункта 2 гэтага артыкула;

в) мясцовых дзяржаўных музеяў або архіваў — у выпадку, калі інвестар навукова-даследчых работ адмаўляецца ад знаходак, выяўленых падчас аплачаных ім даследаванняў;

г) асоб, якія іх выявілі, — ва ўсіх астатніх выпадках».

41. У частцы другой артыкула 82 словы «і ўнутраных войск» замяніць словамі «унутраных, пагранічных і чыгуначных войск».

42. У артыкуле 83 словы «у парадку, прадугледжаным артыкулам 91 дадзенага Закона» выключыць.

43. Артыкул 88 дапоўніць пунктам 4 наступнага зместу:

«4) з іншых паступленняў, атрыманне якіх не супярэчыць заканадаўству Рэспублікі Беларусь».

**Артыкул 2.** Гэты Закон уступае ў сілу з дня апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА**

7 ліпеня 1998 г.,
г. Мінск,
№179 — З

* У далейшым — Банк звестак.

# НОВЫ ФАКУЛЬТЭТ БДУ ВЫБІРАЕ ЎЛАСНЫ ШЛЯХ

**Год таму ў Беларускім дзяржаўным універсітэце з'явіўся новы факультэт — факультэт кіравання і сацыяльных тэхналогій. Трэба заўважыць, што вакол гэтай падзеі хадзіла і працягвае хадзіць нямала чутак, таму што гісторыю яго з'яўлення на свет звычайнай не назавеш. Каб атрымаць неабходную інфармацыю з першых рук і адказаць на пытанні сённяшніх і заўтрашніх абітурыентаў мы звярнуліся непасрэдна да дэкана спецфакультэта Зінаіды ВАЛОВІЧ-ГРЫГОР'ЕВАЙ.**

— І сапраўды, гісторыя ўзнікнення нашага факультэта кіравання і сацыяльных тэхналогій не зусім звычайная, бо нямногім больш года таму мы былі самастойным Недзяржаўным сацыяльна-эканамічным інстытутам. Інстытут быў невялікім, бо ставіць падрыхтоўку спецыялістаў на шырокі паток не ўваходзіла ў нашы планы. Мы ўвесь час знаходзіліся ў пошуку новых формаў работы, спрабавалі арганізоўваць сацыяльную работу, нават працавалі над стварэннем тэатральнай студыі сумесна з Рускім драматычным тэатрам.

Праз нейкі час перад намі, як і перад усімі іншымі недзяржаўнымі вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, паўстала пытанне атэстацыі і акрэдытацыі інстытута. Я як яго рэктар, калі набірала першакурснікаў, абяцала ім, гледзячы ў вочы, што пасля заканчэння вучобы яны атрымаюць паўнацэнныя дыпломы. Аднак сітуацыя, якая склалася ў апошні час вакол недзяржаўных ВНУ, пазбавіла нашых студэнтаў упэўненасці ў заўтрашнім дні. Таму, каб іх неяк сацыяльна засцерагчы, са згоды Беларускага дзяржаўнага універсітэта і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, намі было прынята рашэнне пераўтварыцца ў самастойнае гаспадарчаразліковае структурнае падраздзяленне БДУ. Такім чынам у гэтым годзе БДУ ўпершыню выпусціла спецыялістаў, у якіх у дыпломах значыліся «камерцыйная дзейнасць» і «фінансы і крэдыт» — гэта былі першыя нашы навучэнцы. Усяго, калі мы адчынялі інстытут, у нас было дзве групы па 30 чалавек, а вось да абароны дыплома з кожнай групы дайшлі з іх толькі 10. Магчыма, і можна было зняць з сябе цяжар адказнасці за іх лёсы, спаслаўшыся на тое, што навучаць такую колькасць студэнтаў нерэнтабельна, і ўладкаваць іх у іншыя недзяржаўныя ВНУ, але адказнасць ёсць адказнасць.

**— Наколькі мне вядома, выпускалі вы сёлета не толькі сваіх першынцаў. На ваш факультэт былі пераведзены студэнты з Эканамічна-лінгвістычнага недзяржаўнага універсітэта, які быў ліквідаваны...**

— Восенню мінулага года мы прынялі да сябе больш за 300 чалавек, якія адвучыліся ў ЭЛНУ чатыры гады, але з-за нядобрасумленнасці яго кіраўнікоў, якія збеглі, забраўшы ўсе грошы, не атрымалі не толькі дыпломаў дзяржаўнага ўзору, але ўвогуле ніякіх дакументаў. Падрыхтаваць да выпуску іх было зусім няпроста, паколькі Эканамічна-лінгвістычны універсітэт уяўляў сабой, па вялікаму рахунку, толькі нядрэнныя курсы замежнай мовы. Таму, каб неяк увесці веды яго студэнтаў у рамкі дзяржстандарту вышэйшай адукацыі, нам прыходзілася складаць індывідуальныя вучэбныя планы практычна на кожную групу ўсіх чатырох курсаў дзённай, вячэрняй і завочнай формы навучання. А на выпускным курсе перад дзяржэкзаменам увялі яшчэ і дадатковую сесію. Але факультэт, прызнаемся, меў і свае мэты: паколькі мы ўзялі да сябе людзей, якія апынуліся на вуліцы, Адміністрацыя Прэзідэнта прадаставіла нам будынак на вуліцы Батанічнай.

**— Аднак у студэнтаў іншых недзяржаўных ВНУ захавалася крыўда на шчаслівчыкаў з Эканамічна-лінгвістычнага універсітэта, якія не вылучаліся добрымі ведамі, а ў выніку атрымалі прэстыжны дыплом БДУ.**

— Заўважу, што з 80 студэнтаў выпускнога курса 8 чалавек дыплом не атрымалі, бо не змаглі вытрымаць дзяржаўны экзамен. Магчыма, яны спадзяваліся, што дыплом можна атрымаць за плату. У той жа час сярод былых навучэнцаў ЭЛНУ ёсць і выпускнікі, якія атрымалі ў нас дыплом з адзнакай. Між тым і тыя, і другія, як мы спадзяёмся, нададуць астатнім дадатковы стымул для паспяховай вучобы. Але гэта яшчэ не ўсё: студэнтаў, якія не атрымалі сёлета дыпломаў, мы не кінулі: ім прапанавана з 1 верасня падвучыць адну з замежных моў разам з выпускным курсам, папрацаваць з рэпетытарамі і нарэшце здаць дзяржаўны экзамен для атрымання дыплома.

**— Зінаіда Іванаўна, амаль штогод у розных вышэйшых навучальных установах адчыняюцца новыя спецыяльнасці і факультэты. Не маглі б вы расказаць нашым чытачам, у чым ваша адметнасць?**

— Паколькі наш факультэт новы, нам прыходзіцца шукаць нейкія новыя формы работы са студэнтамі. У гэтым годзе мы аб'явілі прыём на дзве спецыяльнасці: «правазнаўства» і «менеджмент». Прадбачу ваша пытанне, ці не будзем мы дубліраваць юрыдычны факультэт БДУ? Не, не будзем, бо ў адрозненне ад юрфака, які займаецца падрыхтоўкай кадраў для органаў юстыцыі, адвакатуры, натарыяльнай дзейнасці, мы зрабілі стаўку на падрыхтоўку юрыста-рыначніка, юрыста-універсала для работы ў фірмах, банках, акцыянерных таварыствах, любых камерцыйных структурах. Аднак такая спецыялізацыя зусім не выключае, што нашы выпускнікі будуць працаваць і ў дзяржаўным сектары эканомікі.

Намі была (магчыма вас гэта зацікавіць) прааналізавана сучасная сістэма вышэйшай адукацыі, і мы прыйшлі да высновы, што на сённяшні дзень яна дае студэнту пераважна пасіўныя веды, не вучыць яго самастойна мысліць і аргументавана пярэчыць апаненту. Прычына гэтага, на нашу думку, у тым, што 70 працэнтаў вучэбных гадзін у ВНУ адводзіцца пад лекцыйны курс і 30 працэнтаў пад семінарскія заняткі. На нашым факультэце вучэбны цыкл будзе перабудаваны: 40 працэнтаў яго будзе складаць лекцыйны матэрыял (гэта будуць толькі самыя цікавыя, праблемныя лекцыі), 30 працэнтаў — семінарскія заняткі і 30 працэнтаў вучэбных гадзін студэнты будуць займацца самастойнай работай. Затым самастойна засвоены матэрыял будзе правярацца выкладчыкамі.

Няўдалы вопыт ЭЛНУ падказаў нам яшчэ адзін напрамак у нашай рабоце: бізнес-перакладчыкі, якіх там рыхтавалі, сёння не запатрабаваныя на рынку працы, аднак спецыялізаванае вывучэнне замежных моў паказалася нам цікавым. З гэтага года мы ўводзім у навучальныя праграмы вялізны блок замежнай мовы: за 5 гадоў навучання студэнты будуць займацца замежнай мовай каля 1,5 тысячы гадзін. І калі мы нават не зможам праз 5 гадоў запісаць у іх дыпломах «юрыст» ці «эканаміст» з веданнем замежнай мовы», то абавязкова выдадзім укладыш у дыплом з указаннем, што дадзены спецыяліст свабодна валодае адной з замежных моў.

**— А моўная стажыроўка за межамі рэспублікі на факультэце прадугледжваецца?**

— У нас дзейнічае на факультэце аддзел замежных сувязяў, які ствараўся дзеля таго, каб прадаставіць нашым студэнтам падчас летніх канікулаў магчымасць папрацаваць за мяжой і зарабіць сабе на вучобу грошы. Гэта, безумоўна, будзе для іх і добрай моўнай стажыроўкай. У гэтым годзе каля 40 нашых навучэнцаў працавалі ў ЗША, некалькі чалавек паехалі ў Нарвегію і Англію.

У будучым годзе мы збіраемся пачаць ажыццяўленне поствузаўскай адукацыі. Дэбаты, якія вядуцца зараз вакол дзяржаўных і недзяржаўных дыпломаў, сталі прычынай таго, што выпускнікі недзяржаўных ВНУ пачалі сутыкацца з праблемамі пры працаўладкаванні. Хаця я ўпэўнена ў тым, што большасць з іх атрымалі добрыя, грунтоўныя веды. І калі мы зможам прапанаваць прайсці ім за год-паўтара ў нас магістраўскую падрыхтоўку, то дыплом магістра БДУ стане добрай падтрымкай іх ранейшаму дыплому.

**— Зінаіда Іванаўна, і напрыканцы немалаважнае для ўсіх пытанне. Колькі каштуе навучанне на факультэце кіравання і сацыяльных тэхналогій і ці вызваляюцца ад платы за вучобу вашы выдатнікі?**

— Цэны на навучанне ў нас немаленькія, таму што мы — гаспадарчаразліковая структура: на дзённай форме навучання — 1100 і на завочнай — 700 умоўных адзінак у год. Выдатнікам жа плата за навучанне зніжаецца на 15 працэнтаў.

**Гутарку вяла Надзея НІКАЛАЕВА.**





## ...БО, РАТУЮЧЫ СВАЁ ЦЕЛА, ХІБА ЎРАТУЕШ СВАЮ ДУШУ?

...і заклалі яны каменнямі ўваход да труны сваіх продкаў, і вырасла на гэтых каменнях трава забыцця...

Не, гэта не цытата з Апакаліпсіса, гэта замалёўка з натуры, шчымліва блізкай, дарагой нашым душам, бо што можа быць бліжэй і каштоўней, чым атрыманая ад продкаў спадчына?

Спадчына Мірскага замка нялёгкая. Няпроста было сённяшнім нашчадкам, скалечаным «гістарычнымі» катаклізмамі, ачуцца ад манкурцкага забыцця, адкінуць прэч лухту, каб пачалося аднаўленне беларускага дома.



Мірскі замак таксама быў некалі домам для многіх пакаленняў нашых землякоў. Сёння ён ізноў паўстае з руінаў велічным і прыгожым, каб радасціць сэрца і вока. Дзякуй Богу!

Але не толькі пра яго размова — бо ў хвіліне хады сярод старых хвояў маўчыць, не б'ецца, я сказаў бы, духоўнае сэрца мірскага палацава-замкавага комплексу — капліца-пахавальня, няхай сабе і не такая старажытная, як іншыя пабудовы, але таксама ўзведзеная ў далёкія часы.

Шчымліва ўглядаюцца ў сённяшні дзень паўзверх пабітых часам сцен вочы Хрыста Збавіцеля, з дзіўнай выявы на высокай сцяне капліцы. Яны нібы нагадваюць нам біблейскія словы пра тых, хто, ратуючы цела, на жаль, не здольны ўратаваць самае каштоўнае, што дадзена чалавеку, — душу.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

*Спажывец*

# Зламаны парасон — добры спосаб выбіць чалавека з каляіны

**Пачуццё бездапаможнасці, якое адчуваеш, калі з нябеснай канцылярыі на цябе абрушваюцца патокі вады і ў гэты самы момант у твайго парасона загінаюцца ўверх «крылы», вядома, напэўна, многім. Парасоны, на жаль, маюць звычку ламацца, і ламаюцца даволі часта, ва ўсякім разе тыя з іх, якія можна зараз набыць у нашым гандлі. Аб гэтым красамоўна сведчыць і загружанасць рамонтных майстэрняў.**

Чэмпіёнам па недаўгавечнасці з'яўляецца, безумоўна, танная прадукцыя, прадстаўленая ў камерцыйных кіёсках і на Камароўцы: тут кошт парасонаў не перавышае, як правіла, 100—200 тысяч. Такі тавар заўсёды вылучаецца стракатасцю расфарбоўкі, а з яго этыкетак можна даведацца, што прыбыў ён да нас, ні больш ні менш, а з самой Францыі ці з берагоў Японіі. Праўда, больш цеснае знаёмства з «французскімі» і «японскімі» парасонамі прымушае засумнявацца ў славутасці іх паходжання: хісткія спіцы, слабыя ніці мацавання, такая ж тканіна... Больш таго, такую «фірму» ў майстэрнях нават адмаўляюцца рамантаваць, бо рамонт яе каштуе практычна столькі ж, у колькі абышлося набыццё арыгіналу. Як гаворыцца, за таннасць потым прыходзіцца расплачвацца дадаткова.

Вельмі шырока ў буйных сталічных універмагах прадстаўлены на сённяшні дзень нямецкія парасоны «By happy rain». Трэба заўважыць, што нямецкія і галандскія парасоны заўсёды карысталіся добрай славай, і парасоны «By happy rain» — не выключэнне з правіла. Іх якасць не выклікае асаблівых нараканняў.

Ёсць у іх і яшчэ адна вельмі важная перавага — іх можна адрамантаваць, бо нямецкая прадукцыя нашым майстрам добра знаёмая.

А вось з англійскімі парасонамі яны пачалі сутыкацца нядаўна, і днямі давялося стаць сведкам таго, як у жанчыны адмовіліся ўзяць у рамонт яе парасон, таму што не ведалі канструкцыю яго механізма. Параілі ці чакаць, пакуль нехта «ахвяруе» ім свой заморскі тавар і яны разбяруцца ў яго механізме, ці самой прынесці свой парасон у ахвяру. Зразумела, што ад такой прапановы кліентка адмовілася.

Увогуле ж, у сэнсе практычнасці і мяркуемага рамонту лепш за ўсё набываць беларускія парасоны. Для іх у рамонтных майстэрнях заўсёды падбяруць камплектуючыя, да таго ж яны больш устойлівыя да ветру, які апошнім часам у Беларусі проста не суціхае. А вось з набыццём на рэчавых рынках японскіх парасонаў «Тры сланы» трэба быць вельмі асцярожнымі. Па-першае, менавіта японскай вытворчасці «слонікаў» да нас не завозяць — вязуць прадукцыю, якая выпрабляецца па ліцэнзіі, і па-другое, пад маркай ліцэнзійнага тавару вам проста могуць спіхнуць «шырспажыў». І калі раней «Тры сланы» служылі гаспадару 15—20 гадоў, дык сёння яны сталі частымі «гасцямі» майстэрняў.

Таму, хто яшчэ толькі збіраецца купіць сабе да новага сезона дажджоў парасон, будзе карысным ведаць, што пры пакупцы трэба звяртаць увагу, наколькі моцна нацягнута яго тканіна: парасон, у якога правісае «дах», дрэнна ахоўвае ад нябесных патокаў. Добра праверце і яго механізмы.

Памятайце, што надзейнасць парасона напрамую залежыць ад узроўню яго складанасці, таму парасоны ў тры складанні схільныя да паломак больш за ўсе астатнія. Не пашкодзіць пашукаць у магазінах і ветраўстойлівыя парасоны, «крылы» якіх не будуць загінацца пры кожным ветраным парыве. Гэтая іх якасць указваецца, як правіла, на этыкетцы.

Нельга не прыгадаць і пра расцэнкі на рамонт парасонаў: так, звычайны рамонт заклёпкі каштуе зараз 10 тысяч, а ў прысутнасці заказчыка — 20 тысяч рублёў. Ліквідацыя ж найбольш распаўсюджанай паломкі — паломкі спіцы — абыходзіцца ў 70 тысяч рублёў. Але такі рамонт вельмі працяглы і займае тры-чатыры тыдні. Добра тым, у каго некалькі парасонаў у шафе. А вось тым, каго перспектыва застацца без парасона на цэлы месяц не задавальняе, прыйдзецца заплаціць за хуткі яго рамонт (на працягу сутак) — 105 тысяч.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# КІРМАШ

## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 33 (151)




# Масква закупіць 350 мінскіх тралейбусаў

**У Маскве адбыліся перамовы паміж кіраўнікамі мінскіх і маскоўскіх буйных вытворчых прадпрыемстваў. Дэлегацыі ўзначальвалі намеснік старшыні Мінгарвыканкама Мікалай Пацкевіч і першы намеснік прэм'ера ўрада Масквы Уладзімір Рэсін.**

Будзе створаны кансультатыўны навукова-тэхнічны савет са спецыялістаў Мінска і Масквы. Мінскі маторны завод заключыў дагавор з Маскоўскім ЗІЛам аб пастаўцы сёлета 18 тысяч рухавікоў.

У гэтым годзе планавалася адправіць у Маскву 50 тралейбусаў. На жаль, зараз у масквічоў не вельмі багата з фінансамі. На сённяшні дзень «Белкамунмаш» прадаў Маскве толькі 27 тралейбусаў. У той жа час мэрыя Масквы абяцае да канца года закупіць у нас усе 50 тралейбусаў. Спецыялісты гарадскога транспарту Масквы падлічылі, што зараз сталіца патрэбна 350 мінскіх тралейбусаў. Але бюджэт Масквы не справіцца з гэтай задачай у адзін год. Так, у наступным годзе масквічы маюць намер купіць у нас каля 100 тралейбусаў. Расійскі бок паабяцаў, што у далейшым не павінна быць ніякіх праблем з разлікам за атрыманую прадукцыю. Ёсць дамоўленасць, што тралейбусы будуць цалкам на ўсе 100 працэнтаў аплачаны ў грашовай форме. За рухавікі ЗІЛ будзе разлічвацца з Мінскім маторным заводам наступным чынам: 30 працэнтаў масквічы аплачваюць грашыма, а астатнія 70 працэнтаў — тэхнікай.

Вельмі зацікавіліся масквічы унікальнай тэхналогіяй навукова-вытворчага аб'яднання «Цэнтр» па вытворчасці кубічнай шчабёнкі дробных фракцый павышанай трываласці. Гэтая шчабёнка прымяняецца пры будаўніцтве і рамонце аўтамабільных дарог высокай якасці. Урад Масквы плануе ўжо ў 1999—2000 гадах закупіць буйную партыю такога абсталявання ў аб'яднання «Цэнтр».

**Сяргей КУРКАЧ.**

## ТОЛЬКІ ФАКТ

Летась у краіне адбылося 56.135 **шлюбаразводных працэсаў**. З іх толькі 5819 закончыліся прымірэннем мужа і жонкі.

У рэспубліцы выяўлена 2 тысячы выпадкаў ВІЧ-інфекцыі, з іх 89,2 працэнта складае моладзь ва ўзросце **ад 15 да 30 гадоў**. Толькі ў ліпені дадалося 45 заражаных.

Ва ўсім свеце толькі сем краін вырабляюць **якасную гарбату**. Былыя саюзныя рэспублікі ў гэты пералік не ўваходзяць.

Па сведчанню спецыялістаў, больш за **600 мільёнаў тон прамысловых адходаў**, якія патрабуюць далейшай апрацоўкі, знаходзяцца на тэрыторыі прадпрыемстваў і звалках рэспублікі.

На 1 ліпеня ў сталіцы краіны зарэгістравана **1 мільён 715 тысяч 600 чалавек**. Гэта на 1 тысячу 100 чалавек менш, чым у пачатку года.

## ПРАДАЕЦЦА

- л/м «Масквіч-412» 1990 г. в., у выдатным стане. Тэл. 285-02-98;
- л/а «ВАЗ-2101» «Жыгулі», 1977 г. в. 1100 у.а. Тэл. 249-29-32;
- л/а «Ніссан-Санні», седан, 1987 г. в., дызель, 1,7 л, расход 5,5 л на 100 км, белы, люк, цана дагаворная, па даверанасці. Тэл. (8-293) 41-4-71, пасля 21.00;
- л/а «Аудзі-80», 1985 г. в., дызель, у добрым стане, 3500 у.а. Тэл. у г. Валожыне (8-272) 54-0-86.
- л/а «ВАЗ-21013» 1984 г. в., у выдатным стане. Тэл. у г. Пінску 35-89-57; 35-07-47.
- л/а «ВАЗ-2108» 1987 г. в., прабег 160.000 км, у выдатным стане, запчасткі, 2000 у. а. Тэл. у Зэльвенскім раёне 43-2-30, пасля 18.00
- л/а «Масквіч-412», 1991 г. в., прабег 100.000 км, магнітафон, шмат запчастак, 1450 у. а. Тэл. у г. Лагойску (8-274) 5-48-55.
- л/а «ВАЗ-21063» 1987 г. в., прабег 75.000 км, 2300 у. а., кацёл ацяпляльны КЧМ, новы, 12 млн. руб. Тэл. у г. Валожыне (8-272) 54-5-47.
- л/а «ГАЗ-69А», у добрым стане, запчасткі. Тэл. у г. Дзятлаве (8-263) 2-53-12.
- Добротны дом у цэнтры г. Гарадок, зямельны ўчастак 20 сотак, гараж, падвал, лазня; дом у 20 км ад горада, побач лес, прыпынак дызеля, або абмяняю два дамы на кватэру ў Віцебску або ў другіх гарадах, магчыма, даплата. Тэл. у г. Віцебску 33-65-91, у г. Гарадок 2-22-15.
- дом драўляны 6 х 8, гаспадарчыя пабудовы, у 30 км ад г. Мінска, Магілёўскі напрамак. Тэл. у г. Мінску 244-68-94.
- незакончаны цагляны дом, 4 пакоі, кухня, прыхожая, санвузел, камунальныя паслугі, тэлефон, зямельны ўчастак, часовае ж/збудаванне. Тэл. у г. Рэчыцы 3-36-32.
- двухпавярховая дача каля в. Укропенка ў 7 км ад г. Смаргоні, хлеў, калодзеж, агарод; эл. швейная машына «Падольск», «Чайка-134» у футляры. Тэл. (8-01592) 3-16-28 у г. Смаргоні пасля 18.00.
- дом 108 кв. м., гараж, зямельны ўчастак 16 сотак, сад. Тэл. у г. Орша (8-02161) 2-82-30.
- дом новы цагляны, гаспадарчыя пабудовы, лазня, водаправод у в. Сялец Чашніцкага раёна. Тэл. (8-219) 47-6-51, 47-6-92.
- л/а «Газ-24» 1977 г. в. у добрым стане, колер — чорны, газ-бензін. Тэл. у Вілейцы 46-3-57, пасля 19.00.
- л/а «VWДЖЕТТА» 1985 г. в., 1,6 бензін, белы, растаможаны, 3000 у. а. Тэл. (8-01591) 24-7-74.
- л/а «Газ-69 А» ў добрым стане, запчасткі. Цана дагаворная. Тэл. у Слуцку (295) 90-06-61.
- л/а «М-21406» 1986 г. в., «ІЖ Ю-3К» 1981 г. в., прабег 14 тысяч км. Тэл. (8-271) 44-222.
- «МТЗ-80» 1989 г. в.; л/а «ВАЗ-21013» 1982 г. в., рухавік Д-50, электрапіла «Парма», электрамлын. Тэл. (8-01792) 5-57-25.
- л/а «ВАЗ-21063» 1989 г. в. у добрым стане. Тэл. у Салігорскім раёне (8-01710) 74-2-32; 74-8-93.
- л/а «Форд-С'ера» 1987 г. в., Седан, ц/з, сігналізацыя, літыя дыскі, сполер, у выдатным стане, каля 2600 $. Тэл. 8(022-35) 27-8-90.
- карова ва ўзросце 5 гадоў. Тэл. у Навагрудскім раёне 72-6-56.
- шчанюкі мопса (паг) выдатная радаслоўная. Тэл. (8-0171) 5-20-97.
- палова новага цаглянага дома ў г. Слоніме (3 пакоі, кухня, газ, вада), гараж, гаспадарчыя пабудовы, зямельны ўчастак. Тэл. (8-297) 2-70-47.
- драўляны дом у г. Баранавічы. Тэл. 5-97-55; 6-12-82.
- драўляны дом у 30 км ад г. Мінска ў Магілёўскім накірунку, гаспадарчыя пабудовы. Тэл. у г. Мінску 244-68-94.
- дом з гаспадарчымі пабудовамі, зямельны ўчастак 0,7 га, сад, лазня, блізка р. Вілія. Танна. Тэл. у Смаргонскім раёне 95-7-85.
- дом з гаспадарчымі пабудовамі, тэлефон, зямельны ўчастак 0,11 га, сад, в. Пясочнае Капыльскага раёна, побач р. Нёман. Цана па дамоўленасці. Тэл. (8-219) 46-7-64.
- дом драўляны, памерам 8х14 у Салігорскім раёне. Тэл. (8-01647) 20-1-61.
- дом з гаспадарчымі пабудовамі ў Клецкім раёне, зямельны ўчастак 0,3 га, гараж. Тэл. (8-01793) 32-3-54.
- палова дома 36 кв. м, гараж, водаправод, у цэнтры г. Вілейкі. Тэл. 5-41-53 пасля 19.00.
- дом з гаспадарчымі пабудовамі, склеп, зямельны ўчастак 0,5 га, сад, калодзеж, побач рака, аўтамабільная дарога «Мінск—Брэст». Тэл. (217) 4-01-95.
- 2 хаты з гаспадарчымі пабудовамі ў в. Янковічы Стаўбцоўскага раёна. Тэл. (8-217) 3-51-81.
- дом з гаспадарчымі пабудовамі ў в. Альбянка Нясвіжскага раёна, зямельны ўчастак, 0,20 га, сад, калодзеж. Тэл. (8-293) 426-47.
- зруб 4,2х5,2 м, лес абпілаваны, нядорага ў в. Заеліца Глускага раёна. Тэл. 32-6-75.
- новы дальны апарат «Аід-1-01» у Навагрудку. Тэл. 2-36-10, пасля 15.00.
- конь ва ўзросце 2 гады, карова 5,5 года. Цана па дамоўленасці. Тэл. у г. Мінску 244-72-66.
- мотаблок, халадзільнік, а/прычэп. Тэл. (01592), 96-5-56 (хатні), 21-6-60 (рабочы).
- лесаматэрыял для дома (10х7 м), дошкі для падлогі і столі. Тэл. (8-218) 44-42-7. Нагорны Андрэй Сцяпанавіч.

## РОЗНАЕ

- Мяняю дом у райцэнтры пад г. Харкавам на дом у Брэсцкім раёне або прадам, нядорага. Тэл. у г. Каменцы 37-5-56.
- Лячу раны, апёкі, язвы, лішаі. Тэл. у в. Рубяжэвічы Стаўбцоўскага раёна 35-7-65.
- Шукаю работу ў выхадныя дні. Тэл. у г. Мінску 241-19-42.
- Пасведчанне ўдзельніка ВАВ А № 844234, выдадзенае Стральчонку Анатолю Аляксеевічу, лічыць несапраўдным.
- Куплю тэрмінова 2-пакаёвую кватэру ў гг. Глыбокае, Докшыцах, Паставах. Тэл. у г. Валожыне 55-2-89, да 17.00;
- куплю пілы лентачныя даўжынёй 3570 мм. Тэл. у Гомелі (8-0232) 45-33-71;
- мяняю палову дома ў в. Асінаўка каля г. Смаргоні на аднапакаёвую кватэру у гг. Маладзечна, Смаргоні або прадам.

Тэл. у Смаргоні 36-1-16, пасля 18.00.

*Горача віншуем з 60-годдзем любімага мужа, тату ВЕЧЕРАЛАВА Анатоля Іванавіча. Жадаем здароўя, шчасця, доўгіх гадоў жыцця.*

*Жонка Серафіма, сыны Сяргей і Саша.*

## АСАБІСТАЕ ЖЫЦЦЁ

**Аб. 799.** Пазнаёмлюся з прыстойным мужчынам без шкодных звычак ва ўзросце да 58 гадоў. Пра сябе: 49/168/70, дачка 13 гадоў, жыллём, працай забяспечана, жыву ў г. Кірышы Ленінградскай вобласці.

**Аб. 800.** Пазнаёмлюся з дзяўчынай да 28 гадоў для сур'ёзных адносінаў. 28 гадоў, рост 178 см, не жанаты.

**Аб. 801.** Для стварэння сям'і пазнаёмлюся з простай гаспадарлівай жанчынай. Мне 28 гадоў, рост 172 см. Жыву ў вёсцы з бацькамі. Падрабязнасці пры перапісцы.

**Аб. 802.** Шукаю сумленную жанчыну, якая стане для траіх дзяцей маці. Працую ў калгасе шафёрам. Жыву ва ўласным доме, маю гаспадарку, 38 гадоў.

**Аб. 803.** Пазнаёмлюся з сур'ёзным мужчынам ва ўзросце 50—60 гадоў без шкодных звычак. Аб сабе: 50/175/65, жыллём забяспечана.

**Аб. 804.** Пазнаёмлюся з добрай, прыстойнай жанчынай для стварэння сям'і. Аб сабе: 51/165/56, удавец.

**Аб. 805.** Пазнаёмлюся з мужчынам да 30 гадоў для стварэння сям'і. Пітушчых і асуджаных прашу не турбаваць. Аб сабе: 22/162/52, маю сына 2 гады.

**Аб. 806.** Жанчына 1957 г. н. (Казярог) жадае пазнаёміцца з мужчынам (Шалі, Дзева) для стварэння сям'і.

**Аб. 807.** Мужчына пазнаёміцца з жанчынай ва ўзросце 30—36 гадоў для перапіскі. Аб сабе: 33/177/76 (Скарпіён).

**Аб. 808.** Мужчына жадае пазнаёміцца з жанчынай ва ўзросце 33—38 гадоў для перапіскі. Аб сабе: 31/176/74 (Блізнец).

**Аб. 809.** Пазнаёмлюся з самастойным мужчынам для стварэння сям'і. Цаню ў мужчынах: вернасць, чэснасць, дабрыню. Аб сабе: 37 гадоў, жыву ў райцэнтры, ёсць дзіця, на пераезд не згодна.

*ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ РУБРЫКІ «АСАБІСТАЕ ЖЫЦЦЁ»!*

***Просім пры звяртанні ў рэдакцыю з запытам дасылаць канверт з наклеенай маркай і зваротным адрасам. Аплаціўшы паштовыя расходы, атрымаеце адрас абанента. Тэл. для даведак: (017) 232-31-98.***

## ВІНШАВАННІ

Сардэчна віншуем **Вадзіма Баляслававіча МІНЬКО** з 60-годдзем! Жадаем шчасця, здароўя і бадзёрасці на доўгія гады.

*Калектыў «Белкамнавукі», г. Мінск.*

Віншуем з 80-годдзем любага дзядулю **Паўла Паўлавіча ВЕНСКАГА** з в. Лабзова. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту і ўсяго найлепшага.

*Дзеці, унукі, г. Гродна.*

Шчыра віншуем з днём нараджэння **Юрыя Мікалаевіча ДУБАЎЦА**. Жадаем здароўя, поспехаў штодзённа, дабрабыту, радасці багата.

*Настаўнікі, в. Красны Дар Чэрвеньскага раёна.*

Віншуем з днём нараджэння любімага і дарагога сына і брата **Віктара Уладзіміравіча САНУКЕВІЧА**, салдата тэрміновай службы.

*«Пожеланий наших не счесть, так зачем их делить на части, когда все они, сколько есть, заключаются в слове «счастье».*

*Бацькі, сястра Ірынка, в. Рудзевічы Зэльвенскага раёна.*

Віншуем з днём нараджэння **Андрэя ШЭШКУ**. Жадаем шчасця, кахання, поспехаў у вучобе і ўсяго найлепшага.

*Сяброўкі Вераніка і Наталля, г. Любань.*

Сардэчна віншую **Ігара КАЛІНОЎСКАГА** з днём нараджэння. Няхай табе заўсёды шанцуе ў жыцці!

*Галіна, г. Слуцк.*

Віншуем любага татачку і мужа **Міхаіла Яўгенавіча ЯКІМЦАВА** з днём нараджэння. Жадаем здароўя, шчасця і ўсяго найлепшага.

*Жонка, дзеці, в. Людзяневічы Жыткавіцкага раёна.*

Віншуем з днём нараджэння **Вольгу Мікалаеўну САНЮКЕВІЧ**.

«Желанья наши так просты: пусть сбудутся твои мечты, здоровья, крепкого на всех и никогда не видеть бед».

*Родныя, в. Глядовічы Мастоўскага раёна.*

Віншуем **Яна Янавіча АБУХОЎСКАГА** з 60-годдзем! Жадаем яшчэ на доўгія гады здароўя, дабрыні, радасці і бадзёрасці!

*Дзеці, нявестка, унукі.*

## ЗВЯЗДА

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца. Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

## 36,6°

# ПА КІМ ЗВОНІЦЬ ЗВОН?

***Каму з нас не хацелася б ведаць наперад, да якіх гадоў мы дажывём? Колькі кожнаму адпушчана стваральнікам? Ёсць, як запэўніваюць амерыканскія вучоныя Роберт Ален і Шэрлі Ліндэ, апасродкаваны спосаб вылічыць вашы гады ў гэтым цяперашнім жыцці. Прапануемы імі тэст зусім не прэтэндуе на навуковую паўнату ці выключнасць. Гэта, хутчэй, своеасаблівы пасьянс, ад якога так ці інакш залежаць вашы шансы на даўгалецце.***

***За зыходную лічбу бярэцца сярэднестатыстычная працягласць нашага з вамі жыцця гадоў 70. Цяпер бярыцеся за пяро ці арыфмометр і пачынайце лічыць.***

Калі вы жывяце ў горадзе з насельніцтвам больш за два мільёны чалавек, адыміце 2 гады;

калі вы жывяце ў маленькім гарадку з насельніцтвам парадку 10 тысяч чалавек ці ў сельскай мясцовасці, прыбаўце 2 гады;

калі абедзве вашы бабулі і абодва вашы дзядулі дажылі да 80 гадоў, дабаўце 6 гадоў;

калі нехта з вашых бацькоў памёр ад інсульту ці сардэчнага прыступу, не дажыўшы да 50 гадоў, адыміце 4 гады;

калі хоць бы адзін з вашых бацькоў, братоў ці сясцёр ва ўзросце да 50 гадоў хварэў ці хварэе ракам, сардэчна-сасудзістымі захворваннямі ці прыроджаным дыябетам, адыміце 3 гады;

калі ў вас вышэйшая адукацыя, дабаўце 1 год. Калі вы маеце навуковую ступень — яшчэ два;

калі вам ужо за 65 гадоў, але вы па-ранейшаму працуеце, дабаўце 3 гады;

калі вы жывяце сямейным жыццём, дабаўце 5 гадоў. Калі не, адыміце па 1 году за кожныя дзесяць гадоў вашага халасцяцкага жыцця, пачынаючы з 25-гадовага ўзросту;

калі ў вас 25 кг лішняй вагі, адыміце 8. Калі — 15—20 кг, адыміце 4. Калі — 10—15 кг, адыміце 2;

калі вы працуеце за пісьмовым сталом, адыміце 3 гады;

калі ваша работа звязана са штодзённай фізічнай працай, дабаўце 3;

калі вы займаецеся спортам (тэніс, бег, плаванне) пяць разоў у тыдзень, хоць бы па паўгадзіны ў дзень, дабаўце 4. Калі два—тры разы на тыдзень, прыбаўце 2;

вы спіце больш за 10 гадзін у суткі? Адыміце 4;

вас вызначае залішняя ўзбуджальнасць, запальчывасць і агрэсіўнасць? Адыміце 3;

вы жывяце лёгка, бесклапотна, з усмешкай на вуснах? Прыбаўце 3;

вы задаволены жыццём? Прыбаўце 1. Няшчасныя ў ім? Адыміце 2;

вы выкурваеце больш за 2 пачкі цыгарэт у дзень? Адыміце 8. Адзін—два пачкі ў дзень — адыміце 6. Да аднаго пачка ў дзень — адыміце 3;

вы выпіваеце ў тыдзень парадку 350 грамаў моцных спіртных напояў (гарэлка, віскі, джын, самагон)? Адыміце 1;

калі вы мужчына да 40 гадоў і штогод праходзіце медагляд, дабаўце 2;

калі вы жанчына і штогод бываеце на прыёме ў гінеколага, прыбаўце 2.

Ну і як? Што ў вас атрымалася? Але і гэта яшчэ не ўсё. Унясіце ў лічбу ўзроставыя карэктывы:

калі вам ад 30 гадоў да 40, дабаўце 2; калі вам ад 40 гадоў да 50, дабаўце 3; калі вам ад 50 гадоў да 70, дабаўце 4; калі вам за 70 гадоў, дабаўце 5.

***Вось і ўсё. Вы задаволены вынікам? Прыбаўце 1. Не? Адыміце 2. Толькі, зноў жа, майце на ўвазе: гэта зусім не азначае, што вы пражывеце менавіта столькі гадоў. Атрыманая лічба толькі акрэслівае ўмоўныя межы вашай магчымай жыццёвай прасторы. Галоўнае ж — звяртаецца ваша ўвага на фактары рызыкі, якія вам у жыцці спадарожнічаюць. Таму гранічна чэсна, хоць бы перад самім сабой, ацаніце свой цяперашні лад жыцця: на чым ясце, з кім спіце, за кім бегаеце, ці не па вам звоніць звон?***

**Пагаварыў з аўтарамі тэста Аляксандр БЕЛЯКОЎ.**

*«Новости разведки и контрразведки».*





**Розны настрой**

Фота Васіля ЗЯНЬКО.

## Дні нашага жыцця і прыметы

Панядзелак і пятніца лічацца асабліва цяжкімі днямі, а аўторак і субота — днямі, адносна лёгкімі. Па гэтай прычыне ў панядзелак новую справу лепш не распачынаць і грошы не аддаваць, інакш увесь наступны тыдзень вас будуць суправаджаць клопаты і траты. У дарогу зручней адпраўляцца ў аўторак. А вось хадзіць у госці, прымаць ванну і нават чхаць выгадней у панядзелак, сераду і суботу. Пойдзеце ў госці ў нядзелю — пасварыцеся, а вось у сераду гэтая задума ператворыцца ў радасць.

**По матэрыялах друку склала Вікторыя КЛЯНОВІК.**

*Гумарэска*

# МІКАЛАЕЎСКАЯ "ІВАНАЎКА"

Я Ў ГОРАДЗЕ маленькі начальнік, хаця і маю свой кабінет. Пры ўваходзе ў райвыканкам, першыя дзверы налева. Але гэта і не важна, бо мой сябра дзяцінства — вядучы хірург райбальніцы і з ім сябруюць усе. Ад скальпеля, як ад торбы і турмы, ніхто не застрахаваны.

Вось ён пазваніў мне.

— Давай, Коля, сёння расслабімся, глытнем свежага паветра... На юшку махнём. У чатыры гадзіны стой на вуглу універсама.

Іду да шэфа.

— Фёдар Сцяпанавіч, адпусціце раней на гадзінку. Справа тут... трэба.

— Ну, калі трэба — то трэба, — глянуў паверх акуляраў шэф.

Фёдар Сцяпанавіч — чалавек нармальны.

•

За рулём УАЗіка сядзіць дырэктар лесапільнага заводзіка, што ў дваццаці кіламетрах ад райцэнтра, побач з ім галоўны ветэрынар раёна, а за імі я з хірургам.

Замільгалі лясы і пералескі, крутнуліся ў лесе і ўскочылі ў вёску. Спыніліся на ўскраіне каля хаты, якая адным акном выглядала з-за дрэў.

— Наш лясны цар, — кіўнуў дырэктар лесапілкі на выйшаўшага насустрач мужчыну ў шэра-зялёнай форме лесніка.

Мы выйшлі з аўтамабіля і павіталіся з «царом» за руку.

— Усё гатова. Толькі рыбу з сетак дастанем... лазня напалена... усё гатова. Вось сын пад'едзе...

Сын пад'ехаў на чорным «Мерсе», і мы падаліся да возера. Наперадзе плыве-пагойдваецца іншамарка, а за ёю падскоквае наш УАЗік.

Спыніліся на беразе, каля агромністага пня, каля якога ўжо ляжала бярэмя дроў. Сын лесніка дастаў з багажніка аб'ёмістую сумку.

— Пакуль мы губіцы праверым, вы стол рыхтуйце, — сказаў ляснік.

Дасталі з сумкі закуску і дзве двухлітровыя пластмасавыя бутэлькі з-пад «Фанты» з гарэлкай. Усё паставілі і расклалі на пні.

— «Валянцінаўка», — растлумачыў дырэктар і крануў бутэльку. — Сяргеевіч у свой гонар назваў.

— Бацька рэцэпт мае, — дадаў сын лесніка Ігар, — можа, па адной зробім, а то яны пакуль 26 губіц праверацъ, гадзіны дзве міне.

— Дваццаць шэсць! — здзівіўся я, — дык гэта ж чыстае... І што, нічога?

— А што, хіба пракурор ужо рыбы не есць? — У сваю чаргу здзівіўся дырэктар. Я зразумеў, што ён самы галоўны ў нашай кампаніі і ў гэтым краі.

Выпілі яшчэ па адной, і тут пад'ехаў на мінскім матацыкле мужычок. Відаць было, што машына ведала ўсё пра лясныя дарогі. Колы, рама ды матор, а ўсё астатняе, другараднае, адсутнічала. І сапраўды, навошта ў лесе павароты. Рудое шчаціне тыдня і доўгія валасы з-пад пакамечанага брыля хавалі ўзрост, мужчыну можна было даць сорак, а можна і шэсцьдзесят гадоў. Ён прывітаўся, і ягоная рука была як навошчаная дошка.

— Струс, чаго ты матляешся? Што, дома работы няма? — спытаў дырэктар.

— Што дома, у лесе весялей, — адказаў мужычок і яго погляд спыніўся на пні. Яму налілі шклянку. Струс узяў яе двума пальцамі, сказаў у неба «Ну, будзьма», прыплюснуў вочы і выпіў у тры глыткі. Худы кадык Струса нібы поршань тройчы слізгануў угору. Ён закусваць не стаў, а зрабіў глыбокі выдых, быццам хацеў, каб гарэлка апусцілася ніжэй і сказаў:

— Гарэлка добрая, але мая «Мікалаеўская» лепшая.

— Лепшая на сяле «Іванаўка» ў Ярэмчыка, — кінуў дырэктар. — А твая мача. Я дык ведаю.

Лупаватыя вочы дырэктара ўжо акругліліся.

Струс ад'ехаў, і я даведаўся, што ў Тхорыках гарэлку гоняць у кожнай хаце і гаспадар называе яе сваім іменем.

— І што міліцыя, нічога?

— А што, у міліцыі не п'юць? — адказаў Андрэевіч.

Калі лодка павярнула да берага, мы распалілі агонь і паставілі дзве патэльні з салам. Улоў быў багатым, і мы пілі пад смажанага ліня, затым пад шчупака, потым трымалі ў руках шклянкі і глядзелі на сонца, якое хавалася за верхавіны дрэў на тым беразе возера.

— Хлопцы, расслабцеся і глытніце паветра, а то сядзім на асфальце, як тыя прышчы на задніцы і нічога не бачым, — задуменна сказаў доктар-хірург. Яго падтрымаў доктар-ветэрынар.

— А то выцягнеш ногі з гною, ляжаш у труну і толькі тады паглядзіш у неба. Цэлымі днямі бегаеш, уставіўшыся ў зямлю, ды каровам пад хвасты...

Калі сонца схавалася, мы выпілі каб яно ўзышло, бо хутка жніво, а збажына яшчэ не налілася. Апошнюю рыбіну раздзіралі на патэльні ў чатыры рукі, і ў гэты момант я адчуў, што мой язык не слухаецца мяне. Рукі і ногі мае, а язык не.

•

У вёску я вяртаўся з сынам лесніка.

— Трэба варушыцца... журавіны... усю радню на ногі паставіў... тачку вось... жыць можна... — далятаў да мяне далёкі голас Ігара. Я паўляжаў ззаду на сядзенні і плыў на хвалях кудысьці далёка-далёка.

Толькі спыніліся і вылезлі з машыны, як з цемнаты выскачыў Струс і схапіў мяне за рукаво.

— Пайшлі, паспрабуеш, з курыным ці не.

— Усё... ні-ні... не магу, — заўпарціўся я, але Струс пацягнуў да сваёй хаты. Чапляючыся ў цемры за нейкія вёдры і чыгуны, трапілі на кухню. Гаспадар запаліў святло. Пачуўся сварлівы жаночы голас.

— Маўчы, баба! — цыкнуў Струс, дастаў трохлітровы слоік гарэлкі і наліў шклянку.

— Пі... з курыным... іванаўка.., — гаварыў гаспадар. — Лепшай за «Мікалаеўскую» ва ўсім свеце няма.

Зрабіў адзін глыток, але Струс падпіхваў далонню ў дно шклянкі. Я выпіў яшчэ глыток і ледзь не захлынуўся.

— Ну і як?!

Гаспадар пазіраў на мяне пераможна. З гарэлкай я не разабраўся. Можа, яна з соку, а мо і з курынага памёту.

— Лепшай я не піў — нідзе не піў, — пралапатаў я і вываліўся з хаты.

А ў лазні лесніка пераможна свяціліся вокны. Уся кампанія распраналася, збіралася парыцца. Апынуўся ў парыльні і я, толькі забыўся скінуць шкарпэткі. Ляснік добра адмачыў мяне дубовым венікам і я крыху акрыяў. Але тут прыйшлося зноў сесці за стол, бо прынеслі вядро з юшкай. А пад юшку без гарэлкі нельга. Я адмовіўся, нават шклянку перакуліў уверх дном.

— Ведаеш, дарагі мой, у нас тут процьма ўсякага начальства пабывала, — заявіў Андрэевіч. — І мы нікога не пакрыўдзілі і на нас, здаецца, не крыўдуюць, бо ў нас народ такі. Мы ўсіх, як родных, прымаем. Бяры!

Жывот у дырэктара ляжаў на стале, а вочы пакінулі арбіты. Выпілі і ўзяліся за літровыя слоікі з юшкай.

А потым ляснік дастаў гармонь і расцягнуў мяхі. Валянцін зацягнуў «По долинам и по взгорьям..», і яго валасатыя грудзі ўзняліся сопкай.

«Чтобы с боем взять Приморье...» — дружна падхапілі за сталом. Божа мой! Калі я спяваў гэтую песню?! Тады дрэвы былі маленькімі, а рукавы маёй кашулі блішчэлі ад смаркачоў.

У дзве гадзіны ўспомнілі, што хутка і на работу. Вырашылі падняцца ў шэсць гадзін раніцы. Ляснік аб'явіў, што будзільнік у ягонай галаве і праблемы з пад'ёмам не будзе.

Спаць пайшлі да сына лесніка. Дзе малады гаспадар паставіў «Ігараўскую»...

Будзільнік у лесніка спрацаваў на гадзіну пазней і ўсе замітусіліся — трэба не спазніцца на планёркі. І ветэрынар паведаў, што сёння трэба правяраць кароў на лейкоз.

Я ж ні аб чым не думаў. У маёй галаве гулялі ў кеглі. Калі галавой не варушыць — там каталіся шары, а калі крыху нахіляў, кеглі з грукатам падалі.

І толькі дырэктар лесапільнага завода, відаць, не дужа пакутаваў. Андрэевіч вёў машыну даволі спраўна. У райцэнтры ўсе без лішніх слоў разбегліся ў розныя бакі.

Без пяці восем я сядзеў у кабінеце і трымаўся за галаву. Колькі так працягвалася, не ведаю, але грукнулі дзверы і я адплюшчыў вочы, але нікога не ўбачыў і толькі пачуў заклапочаны голас шэфа.

— Коля, бяры машыну і дуй у Тхорыкі, на лесапілку. Сігнал паступіў, праверыць трэба. — Цёмная пляма крыху распаўзлася і я ўбачыў акуляры Фёдара Сцяпанавіча.

— А можа...

— Якое можа! Сам бос даў каманду. Ды чаго там, расслабішся, глытнеш ляснога водару...

Я кіўнуў галавой, і кеглі загрукаталі.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйнага — 68-27-41, крымінальнай хронікі і фінансавых экспертыз — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 80.779. Індэкс 63850.
Зак. № 5051.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12